# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 45-46 (124-125) Нядзеля 16 лістапада 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# Двайт Айзэнгаўэр новым прэзыдэнтам ЗША

### НЯЗВЫЧАЙНЫ СУКЦЭС ГЕНЭРАЛА АЙЗЭНГАЎЭРА

Дзень 4 лістапада сёлета задэцыдаваў, хто будзе прэзыдэнтам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі на наступныя чатыры гады. Гэты гонар і адначасна цяжар прыпаў генэралу Двайту Давіду Айзэнгаўэру, які паводля амэрыканскай канстытуцыі 20 студзеня 1953 году ўвойдзе ў Белы Дом у Вашынгтоне й распачне ўрадаваньне ад імя рэспубліканскай партыі пасьля дваццацёх год улады партыі дэмакратычнай.

Неспадзяванай была дагэтуль такая бліскучая перамога Айзэнгаўэра над сваім дэмакратычным супорнікам Стывэнсонам. Яшчэ напярэдадні самых выбараў публічная апінія Амэрыкі, прэса, вядучыя палітыкі, як і папулярныя ў Амэрыцы інстытуты дасьледваньня публічнай апініі на чале зь ведамым інстытутам Галюпа ўважалі, што шансы абодвых кандыдатаў больш менш роўныя, як 50 : 50%, што нельга прадбачыць, хто будзе ўсё-ж такі выбраным. Тымчасам вынікі самых выбараў прынесьлі Айзэнгаўэру абсалютную перамогу: ён, як 34-ы прэзыдэнт дзяржавы Вашынгтона, атрымаў такую колькасьць галасоў, як ніводзін яшчэ з дасюлешніх 33-ох прэзыдэнтаў. На яго галасавалі 33 мільёны выбіральнікаў і далі больш як на 7 мільёнаў галасоў болей, чымсьці атрымаў Стывэнсон. З 48 штатаў ЗША Айзэнгаўэр здабыў 39 штатаў тады, калі Стывэнсон толькі 9. Так як прэзыдэнцкія выбары ў ЗША зьяўляюцца не непасрэднымі, але пасрэднымі цераз выбраных народам электараў, дык, параўноўваючы электарскія галасы, Айзэнгаўэр здабыў іх 442, а Стывэнсон толькі 89.

Мыляўся-б, аднак, той, хто-бы думаў, што перамогу сваю асягнуў Айзэнгаўэр дзякуючы праграме рэспубліканськай партыі, ад імя якой ён кандыдаваў. Вось-жа ня зусім так. У той-жа самы дзень, 4 лістапада, адбываліся таксама выбары ў вабедзьве палаты амэрыканскага парляманту: у сэнат і кангрэс. У сэнаце, які ў Амэрыцы адыгрывае нязвычайна вялікую ролю й моцна вяжа дзейнасьць самога прэзыдэнта, рэспубліканцы здабылі перавагу над дэмакратамі толькі на адзін голас. У кангрэсе тая перавага значна большая, тым ня меней факт астаецца фактам, што ўвесь сэнс перамогі трэба прыпісаць не рэспубліканцам, але самому Айзэнгаўэру. Гэта перамога асабістая Айзэнгаўэра, а ня партыі, якая яго сваім кандыдатам выставіла.

### ШТО СПРЫЧЫНІЛАСЯ ДА ПЕРАМОГІ?

На гэтае пытаньне адказаць ня цяжка, калі ўзяць пад увагу вышэйсказанае, што ў сэнаце рэспубліканцы перамаглі толькі адным голасам. Да такой бліскучай перамогі Айзэнгаўэра спрычынілася ня партыя, ня ейная праграма й ня той, напасьледак, факт, што дваццацілетняя ўлада дэмакратычнай партыі ўжо ўзапраўды надаела амэрыканцам, але спрычыніліся да гэтага ў першую чаргу асабістыя якасьці самога Айзэнгаўэра. Ягоныя бясспрэчныя заслугі перад Амэрыкай і амэрыканскім народам, ягоная слава, як пераможніка ў вапошняй вайне, як здольнага арганізатара збройных сілаў Атлянтычнага пакту, ягоныя здольнасьці, працавітасьць і вытрываласьць на цяжкіх становішчах, што займаў дагэтуль, былі тымі дзейнікамі, якія адчынілі яму дзьверы ў Белы Дом.

Былі пры гэтым і іншыя фактары, што спрычыніліся да перамогі Айзэнгаўэра й рэспубліканцаў. Заходняя прэса амаль аднагодна сьцьвярджае, што найважнейшымі такімі фактарамі былі тры наступныя: карупцыя, камунізм і Карэя. Гэтыя тры літары «ККК» (у ангельскай мове «ССК») прадстаўлялі сабой праблемы, якія ў пераканаьні амэрыканцаў вымагалі станоўчай разьвязкі.

Карупцыя і ўзятніцтва ў адміністрацыі цяперашняга ўраду апошнімі гадамі глыбака разьядалі адміністрацыйны апарат дзяржавы, будучы надмерным цяжарам для амэрыканскага падатніка. Амэрыканскае грамадзянства дамагалася з гэтым наканец пакончыць і Айзэнгаўэр зрабіць гэта цьвёрда абяцаў. Адным зь ягоных перадвыбарных лёзунгаў і было абяцаньне безадкладнага змаганьня з карупцыяй і ачыстка ад карупцыйных элемэнтаў дзяржаўна-адміністрацыйнага апарату.

Ня менш моцным лёзунгам Айзэнгаўэра было патрабаваньне грунтоўнае зьмены палітыкі ў дачыненьні да камунізму, дамаганьне пакончыць з уступкамі, палавічнасьцю й кампрамісовасцю ў дачыненьні да камунізму, якая была азнакай палітыкі ўраду Трумана. Амэрыканскі народ, як найбольш прагрэсыўны ў сьвеце, зразумеў добра, што якраз камунізм, як у цэлым сьвеце, гэтак і ў самой Амэрыцы, зьяўляецца прычынаю найвялікшага зла. Амэрыканцы зразумелі, што пасьля вялікіх ахвяраў, якія трэба было ім улажыць у вапошнюю вайну, і пасьля татальнай перамогі над ворагам, што ізноў яму загражае ня меншая небясьпека, ужо сяньня павінен ён несьці вялізарныя цяжары, каб перад гэтай загрозай бараніць ня толькі сябе, але й цэлы сьвет. Таму ў амэрыканскага грамадзянства зрадзілася зразуменьне патрэбы моцнай рукі перад камунізмам, на што ня мог ужо здабыцца цяперашні ўрад дэмакратычнай партыі, які сваей ранейшай палітыкай у дачыненьні да Савецкага Саюзу спрычыніўся якраз да цяперашняй незавіднай сытуацыі. А такія факты, як выкрыцьцё ў самой Амэрыцы цэлага раду камуністычных змоваў, правакацыяў, шпіянажу на чале зь ведамай атамнай шпіёнскай афэрай, не маглі ня ўплываць на публічную апінію найбольш абураюча. Дзеля гэтага заява Айзэнгаўэра, што ён зойме цьвёрдую й няўступлівую пазыцыю ў дачыненьні да камунізму і ў першую чаргу ачысьціць ад камуністычных элемэнтаў дзяржаўны апарат Амэрыкі, не магла астацца бяз моцнага рэха. А пастаўлены ім лёзунг вызваленьня на месцы дасюлешняга лёзунгу «кантэйнмэнту» бясспрэчна здабыў для яго галасы тых амэрыканцаў, што паходзяць з за зялезнай заслоны.

Найбольш балючай для амэрыканскага народу зьяўляецца справа Карэі. Вайна зацягнулася, ужо трывае два з палавінай гады, праглынае вялізарныя ахвяры, як у людзях, гэтаксама апаражнае й дзяржаўную касу, а канца ей ня відаць. Пасьля таго, калі сталася ясным, што мірныя перагаворы ў Панмунджоне да нічога не давядуць, амэрыканцы прыйшлі да пераканаьня, што трэба з гэтым неяк ды скончыць. Абвінавачаньне Айзэнгаўэра цяперашняга ўраду, што ён вядзе вайну, каб яе ня скончыць і каб ня выйграць, прыпала амэрыканцам найбольш да пераканаьня. Пры гэтым моцна памагла Айзэнгаўэру ў выбарнай кампаніі ягоная заява, што калі будзе выбраны прэзыдэнтам, дык асабіста паляціць у Карэю, каб дасьледваць сытуацыю на месьцы й знайсьці зь яе выхад. Гэта у вялікай меры абнадзеіла многіх амэрыканцаў, асабліва амэрыканак, якіх мужы й сыны змагаюцца й гінуць на карэйскім фроньце, што Айзэнгаўэр, як выдатны стратэг і пераможнік у вапошнюю вайну, усё-ж такі знойдзе нейкую разьвязку неразьвязальнага дагэтуль карэйскага вузла.

Вось гэта й былі тымі аснаўнымі фактарамі, якія здабылі Айзэнгаўэру сымпатыі амэрыканскага народу й далі яму вялізарную перавагу на выбарах.

### ЖЫЦЬЦЁВЫ ШЛЯХ АЙЗЭНГАЎЭРА

Генэрал Айзэнгаўэр паходзіць зь сям'і нямецкіх калёністых, якая пасялілася ў Пэнсыльвэніі ў 1732 годзе. Бацькі Айзэнгаўэра, дробныя фармэры, пераехалі потым у штат Тэксас, дзе ў 1890 годзе нарадзіўся будучы прэзыдэнт. Пасьля сканчэньня школы паступае ён у ведамую ваенную акадэмію ў Вэст Пойнт, аддаючыся ад таго часу бязупынна ваеннай кар'еры.

У 1917 годзе Айзэнгаўэр, адбываючы службу ў ваднэй з панцырных адзінак, адпраўляецца з амэрыканскай экспэдыцыйнай арміяй у Эўропу, дзе прыймае ўдзел у першай сусьветнай вайне. Падчас сваей далейшай вайсковай службы займаецца ён галоўна тэарэтычнымі праблемамі панцырнай вайны. Пазьней зьяўляецца шэфам штабу генэрала Мэк Артура, калі той арганізаваў збройныя сілы на Філіпінах.

У 1942 годзе ён назначаецца галоўнакамандуючым амэрыканскай арміяй у Эўропе. Пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам адбылася ў тым-жа 1942 годзе высадка альянтаў у Паўночнай Афрыцы. У 1944 годзе ён кіруе ім-жа прыгатаванай інвазыяй у Францыі. У наступным 1945 годзе ён вымушае на немцах бязумоўную капітуляцыю й пасьля гэтага ўваходзе ад імя Амэрыкі ў склад Кантрольнай Рады ў Бэрліне. У гэтым яшчэ годзе ён аднак адклікаецца назад у Амэрыку й назначаецца шэфам штабу амэрыканскай арміі. Аднак потым пакідае на нейкі час вайсковае рамясло, каб заняць становішча рэктара Калюмбійскага ўнівэрсытэту.

Хутка аднак вяртаецца ўзноў да вайсковае справы і ўжо ў 1951 годзе знаходзіцца ўзноў у Эўропе, гэтым разам як галоўнакамандуючы збройнымі сіламі Атлянтычнага пакту.

На ўсіх сваіх становішчах Айзэнгаўэр выявіў вялікія здольнасьці, як стратэгічныя, гэтак і арганізацыйныя. Ён у сваім жыцьці некалькі разоў заракаўся, што ня хоча займаць ніякіх палітычных становішчаў. У 1946 годзе ён быў асьветчыў журналістым: «За ніякую цану ня прыйму ніякага ўрадавага становішча, ці гэта будзе становішча гіцля, ці найвялікшага ўладара сьвету». У 1948 годзе рэспубліканцы й дэмакраты намагаліся выставіць кандыдатуру Айзэнгаўэра на становішча прэзыдэнта, кажныя ад сваей партыі. Але ён катэгарычна адмовіўся. Аднак восеньню 1951 году прыходзіць мамэнт, калі Айзэнгаўэр асьветчыў: «Ніводзін амэрыканец ня можа адмовіцца ўзяць на сябе цяжару, калі амэрыканскі народ гэтага зажадае» і 31 травеня сёлета заяўляе аб сваей пастанове, што будзе кандыдаваць на становішча прэзыдэнта.

### ЧАГО МОЖНА ЧАКАЦЬ АД НОВАГА ПРЭЗЫДЭНТА?

На гэтае пытаньне, рэч ясная, адказаць найцяжэй, часамі навет немагчыма, тым ня меней аднак пытаньне гэтае сяньня найбольш інтрыгуе даслоўна ўвесь сьвет. Кім сябе Айзэнгаўэр пакажа ў вонкавай палітыцы, гэта будзе відаць толькі пасьля 20 студзеня 1953 году, калі ён афіцыяльна пяройме ўладу. Аднак пэўныя агульныя тэндэнцыі ў найбольш важных пытаньнях можна прадбачваць ужо сяньня на падставе дасюлешняга кірунку рэспубліканцаў у

Заканчэньне на 5 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Цяжкія баі ў Карэі.** Пункт цяжару баёў у Карэі ўзноў перасунуўся з захаду на сярэдні адрэзак фронту. Амэрыканцы, якія ў мінулым тыдні мелі найцяжэйшыя страты на працягу цэлага году, пад[illegible]алі агульную колькасьць сваіх стратаў на 123.595 чалавек.

**Контрнаступ у Індакітаі.** У Індакітаі распачалася цяпер новая фаза ажыўленых баёў, калі французы перайшлі да пасьпяховага контрнаступу. 30 клм. на поўнач ад Пгу-Доан французы ськівулі вялікія сілы парашуцістых, якія занялі мясцовасьць Пгу-Тго. Быў таксама кінуты сільны аддзел францускіх панцыраў, які злучыўся з парашуцістымі. Камуністычныя войскі Ветміну адступілі на поўнач, пакінуўшы гэты стратэгічны пункт у руках француска-ветнамскіх войскаў.

**Уступленьне Трыгвэ Лі.** Падчас цяперашняй пленарнай сэсыі Задзіночаных Нацыяў Трыгвэ Лі заявіў, што ён з «асабістых прычынаў» пакідае займанае ім за ўвесь час існаваньня Задзіночаных Нацыяў становішча іхнага генэральнага сакратара. Справа наступніцтва Трыгвэ Лі напатыкаецца на вялікія труднасьці, бо цяжка знайсьці другога кандыдата на гэтае становішча. У палітычных колах здагадваюцца, што Трыгвэ Лі пакінуў сваё становішча ў сувязі з канфліктам з амэрыканскай дэлегацыяй.

**Вышынскі пагражае зарваньнем нарадаў.** Міністар замежных справаў СССР Вышынскі перасьцярог 10 лістапада, што калі сэсыя ЗН прыйме ўнесеную 21 дзяржавай рэзалюцыю, якая дамагаецца дабравольнага прынцыпу рэпатрыяцыі ваеннапалонных у Карэі, перагаворы ў Панмунджон аб пераміры канчальна сарвуцца, а вайна ў Карэі будзе прадаўжацца.

**Чэрчыль апэлюе да Францыі.** Ангельскі прэм'ер-міністар Чэрчыль 10 лістапада ў вялікай палітычнай мове зьвярнуўся з настойлівым апэлем да Францыі, каб апошняя прыязнай рукой увяла назад Нямеччыну ў сям'ю вольных народаў. Ён зазначыў, што бяз удзелу Нямеччыны ня можа быць мовы аб абароне культуры й свабоды Заходняй Эўропы.

**Ціта збліжаецца да Захаду.** Дзяржаўны падсэкратар брытанскага міністэрства замежных справаў Нюцінг паведаміў, што маршал Ціта прыняў запросіны міністра Ідэна адведаць брытанскую сталіцу, хаця тэрмін адведзінаў яшчэ ня вызначаны. У спэцыяльным інтэрвью з прадстаўніком агентства «Асошыэйтыд Прэс» маршал Ціта выразіў зычэньне сустрэцца з прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам для перагавораў, якія датычаць супольных інтарэсаў ЗША і Югаславіі. Галоўнымі пытаньнямі гэтай канфэрэнцыі былі-б праблемы вонкавай і абароннай палітыкі абедзьвюх дзяржаваў.

**Кангрэс камуністычнай партыі Югаславіі.** На нядаўна адбыўшымся другім кангрэсе камуністычнай партыі Югаславіі Ціта, як лідэр партыі, меў пяцігадзінную прамову, у якой высказаўся за задзіночаньнем Нямеччыны й рэвізыяй ўсходнянямецкай граніцы. Шэф генэральнага штабу Паповіч паведаміў, што Югаславія ад 1948 году вышкаліла больш аднаго мільёна рэкрутаў.

**Памёр прэзыдэнт Ізраэля.** Др. Хаім Вайцман, народжаны на Беларусі ў Піншчыне, даўгалетні лідэр жыдоўскага сыёністычнага руху, выдатны навуковец-фізык і першы прэзыдэнт жыдоўскай дзяржавы — Ізраэлю, памёр 9 лістапада ў веку 77 год.

**Генэрал Наджыб «панад правам».** Эгіпскі прэм'ер ген. Наджыб атрымаў неабмежаваныя правы на працяг 6 месяцаў. Эгіпскі ўрад прыняў дэкрэт, на моцы якога будуць вынятыя з пад кампэтэнцыі судоў усе мерапрыемствы, якія прадпрыйме ўрад дзеля абароны новага рэжыму. Спэцыяльны камунікат міністэрства нутраных справаў гаворыць, што абарона новага рэжыму зьяўляецца канечнай для бясьпечнасьці дзяржавы, а таму «ўрад уважаў за неабходнае прыняць некаторыя выняткова меры, што зьяўляюцца паза правам».

**Аднаўленьне нямецкай арміі.** Міністар абароны Заходняй Нямеччыны Блянк абвесьціў па радыё падробнасьці пра нямецкую армію, што будзе зарганізаваная як складовая частка эўрапэйскай абароннай сыстэмы. Армія будзе складацца з 12 дывізыяў агульным лікам 512 тысяч, у тым ліку 22 тысячы кадравых ахвіцэраў, зь іх 40 генэралаў, 250 палкоўнікаў і 900 падпалкоўнікаў. Тэрмін службы паўтарагодні, камплектаваньне спачатку дабравольнае, пазьней прымусовае. Авіяцыя будзе мець 30 тысяч чалавек, морскі ваенны флёт 18 тысяч.

**Былыя СС супраць Захаду.** У Нямеччыне нядаўна адбыўся зьезд былых сяброў вайсковых аддзелаў СС. Запрошаны на зьезд генэрал Рамкэ сказаў прамову, гвалтоўна атакуючы заходнія дзяржавы й цьвердзячы, што яны якраз зьяўляюцца запраўднымі ваеннымі праступнікамі. Гэтая прамова выклікала вялікае ўражаньне ў Нямеччыне, Ангельшчыне й Францыі. Урад Заходняй Нямеччыны высказаўся супраць ген. Рамкэ. Ангельская газэта «Экономіст» выступіла з праектам, каб заходнія дзяржавы ня ўключалі былых ахвіцэраў СС у нямецкую армію. Трэба адцеміць, што выступленьне ген. Рамкэ ня ёсьць індывідуальным выступленьнем, аб чым сьветчылі стыхійныя апладысмэнты прысутных. Рамкэ сказаў тое, што думае шмат немцаў.

**У Карэі спадзяюцца грунтоўных зьменаў.** Высокія амэрыканскія ахвіцэры ў галоўнай гасподзе альянтаў у Токіё, якіх прозьвішчы ня могуць быць названыя, прадбачваюць, што візыта Айзэнгаўэра ў Карэі ператворыцца на пачатак наступальнай вайны замест вядзеньня няўдалых перагавораў пра перамір'е. Ахвіцэры заявілі, што надалей вырашэньні будуць прыймацца на полі бою, навет калі-б з гэтым было зьвязанае рызыка пашырэньня вайны.

**У францускай кампартыі чыстка трывае.** Блізкага прыяцеля Марты й Тылёна, якіх нядаўна пазбавілі кіруючых становішчаў у францускай камуністычнай партыі за скрыўленьне партыйнай лініі, сакратара камуністычнай партыі ў горадзе Лімс і заступніка генэральнага сакратара ў дэпартаманьце Гот Він Жоржа, Гвінго выключылі з камуністычнай партыі Францыі за тую-ж самую віну.

**Зялезная заслона і ў паветры.** Як паведамляе Саюз ахвяраў бальшавізму ў Бэрліне, пры ўсіх пагранічных камендантурах «народнай паліцыі» савецкай зоны Нямеччыны створаныя матарызаваныя стралковыя каманды дзеля змаганьня з паветранымі балёнамі, пры помачы якіх антыкамуністыя закідаюць у зону антысавецкую літаратуру.

**Савецкія ахвіцэры ў нямецкай паліцыйнай арміі.** Пачынаючы зь сярэдзіны кастрычніка, савецкія ахвіцэры неспадзявана ўзялі ў свае рукі непасрэднае камандаваньне ўсіх дывізыяў «народна-паліцыйнай» арміі. Як паведамляецца далей, нямецкія ахвіцэры «народнай паліцыі», пачынаючы ад палкоўніка, а канчаючы лейтэнантамі, у сваіх казармах цяпер бачаць перад сабой савецкіх вайскавікоў. Калі дагэтуль да паасобных нямецкіх дывізыяў было прыдзяляных ад трох да шасьцёх савецкіх «дараднікаў», дык цяпер на кажную дывізыю прыпадае звыш 350 савецкіх ахвіцэраў.

**Савецкі патрыярх ардзенаносцам.** Маскоўская «Праўда» апублікавала 9 лістапада ўказ Вярхоўнага Савету СССР аб узнагароджаньні «патрыярха Маскоўскай і ўсея Русі» Аляксея ордзенам працоўнага чырвонага сьцягу. Узнагарода ўматывоўваецца «выдатнай патрыятычнай дзейнасьцяй» патрыярха для «радзімы падчас вялікай айчыннай вайны й пасьля яе».

**Паздраўленьне Трумана ў Маскве.** 8 лістапада маскоўская «Праўда» апублікавала зьмест паздраўленьня, прысланага прэзыдэнтам Труманам на рукі старшыні Вярхоўнага Савету СССР Швэрніка з нагоды 35-ай гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі. У сваім пасланьні да Швэрніка Труман высказвае «найлепшыя пажаданьні» амэрыканскага народу савецкаму народу з нагоды ягонага «нацыянальнага сьвята». Адначасна «Праўда» апублікавала паздраўленьні францускага прэзыдэнта Орыёля, прэзыдэнта Індыі й прэм'ер-міністра Ізраэля.

**Плян перасяленьня 5 мільёнаў эўрапэйцаў.** Міжнародны камітэт для эміграцыйных справаў прыгатаўляе плян зьмяншэньня насельніцтва Эўропы шляхам эміграцыі. Плян прадбачыць перасяленьне 5 мільёнаў эўрапэйцаў у іншыя часьці сьвету, у тым ліку 4 мільёнаў безработных. Насельніцтва сьвету ўзрасло ад 1939 году на 300—400 мільёнаў чалавек. Эўропа зьяўляецца найбольш пераселенай часьцяй сьвету, якая налічвае 393 мільёны чалавек.

Г. А. ТАКАЕЎ

# Некаторыя пытаньні рэвалюцыйнай дэмакрацыі

(Працяг, глядзі № 43 і 44)

### ГІСТАРЫЧНЫЯ ПРЫКЛАДЫ

Мала хто ведае пра ўкраінскага права-нацыяналістычнага камуністага Мацея Яворскага, што да 1930 году займаў высокія пасады у СССР. Гэта быў высока асьвечаны чалавек з глыбокімі асаблівасьцямі ў палітыцы и думаньні. Гэта — той Яворскі, якому прыпісваюць дзьве крылатыя фразы: 1) калі я чую пра Расею — думаю пра цара, а калі я чую пра цара — думаю пра Расею; 2) раз есьць СССР, — то ўжо няма Расеі, калі-ж есьць Расея — то няма СССР. Значыцца лаўры пяршынства формулы «СССР — не Расея, Расея — ня СССР» належаць Яворскаму, а ня эміграцыі.

За ім лічыцца вельмі многа розных «грахоў» і «злачынаў», сярод якіх у 1936/37 г. г., у разгары новага разгрому ўкраінскіх кіраўнікоў, асабліва быў выдзелены адзін: выяўляецца, «гэты мярзотнік», як было да ўпадабаньня Л. Кагановічу назваць яго пасьля сьмерці, меў сьмеласьць вымагаць, каб цэнтр (Крэмль) у нутранае жыцьцё УССР умешваўся болей, чымся Харкаў умешваецца ў жыцьцё Крамля, бо УССР дзяржава сувэрэнная, мала мае патрэбы мець дырыгентаў. За гэты «злачын» Яворскага прышылі да ганебнага стаўба, абвесьцілі яго зацятым ненавісьнікам вялікага расейскага народу, нацыяналістычным сэпаратыстым, ворагам саюзнага сужыцьця народаў і падобнае. Нота бэнэ!

І яшчэ вымоўнейшы другі прыклад. Ведамы туркестанскі правы бальшавік Фэйзула Хаджаеў, якога расстралялі ў ночы на 17 сакавіка 1938 году ў справе Бухарына, у дні працы 17-га зьезду ВКП(б) ў вадным коле сказаў: або мы ўжо не Расея й СССР ёсьць саюзнай дзяржавай раўнапраўных рэспублікаў і акругаў, тады трэба было-б кіраваць ім на асновах роўнага або хоць прапарцыянальнага прадстаўніцтва, або гэта ня так, тады хай скажуць нам пра гэта адкрыта, і мы будзем ведаць, што пад лёзунгамі раўнапраўнага саюзу й вызваленьня нерасейскіх народаў мы ўпаўзаем у балота каляніяльна-імпэрыялістычных дыскрымінацыяў.

Нічога іншага Хаджаеў не гаварыў. Ніякіх «сэпаратызмаў» не прапаведываў. Ён ня меў навет далёкага ценю процірасейскіх эмоцыяў. Але гэта не перашкодзіла нядобрай памяці Ежову абвінаваціць яго ў... «зацятым супраць-расейскім нацыяналізьме» і ў «зацятым туркестанскім сэпаратызьме». Нота бэнэ!

Напасьледак, стары бальшавік Сымон Такаеў, ведамы прыхільнік саюзнага суіснаваньня народаў, чалавек абсолютна вольны ад нацыянал-сэпаратызму, ад 1937 году носіць ярлычок ня толькі «меншавіка» й «буржуазнага нацыяналістага», а й **«зацятага каўкаскага сэпаратыстага»** толькі за тое, што пратэставаў супраць насаджваньня на кіруючыя становішчы рэспублікаў і акругаў розных прахадзімцаў. Ізноў нота бэнэ!

Гэтыя ганебныя мэтады «змаганьня», на жаль, паўтараюць цяпер расейскія эмігранты, а таму рэвалюцыйным дэмакратам трэба было-б ужыць энэргічных контразахадаў у справе высьняньня іхнай небясьпекі. Мы ня можам дапусьціць, каб сярод белага дня адраджаліся вялікія й малыя Ежовы, каб расьперазаныя авантурнікі й прайдзісьветы направа й налева сыпалі ярлычкі, каб дзяржава была «агульнарасейская», але адныя маглі прыгнятаць іншых за найменшае інакшдуманьне.

### ПАТРЭБНАЯ ЯСНАСЬЦЬ МЭТАЎ

Дзеля гэтага патрэбная вычэрпваюча яснасьць мэтаў, такая яснасьць, каб ніякія вялікія й малыя Ежовы не маглі зьбіваць людзей з панталыку. Рэвалюцыйныя дэмакраты, што пачалі зараджвацца ў нутрана- і пазапартыйных апазыцыйных колах трыццатых гадоў у СССР, якія ўжо даўно нарысавалі асноўныя кантуры сваей генэральнай лініі, мусяць сыстэматызаваць сваё мінулае шляхам папулярызацыі як мага найбольшай колькасьці фактычнага матарыялу зь дзялянкі палітычнага змаганьня.

Можа, карысна ўспомніць, у сувязі з гэтым, пра адну тэзу, што ўвайшла да пратаколаў Балаклаўскай канфэрэнцыі 28 чэрвеня 1936 году, якая дaслоўна гаворыць:

«Праект новай канстытуцыі мае рад наватарстваў, але дэмакраты-дэцэнтралістыя (зацемка аўтара: з 1938 г. называліся «рэвалюцыйныя дэмакраты-дэцэнтралістыя») мусяць вымагаць ад канстытуцыйнай камісыі, папершае, увядзеньня спэцыяльнага гарантыйнага параграфу пра скасаваньне аднапартыйнай сыстэмы, падругое, поўнай і нічым незапярэчванай свабоды канстытуцыйнага існаваньня ўсіх камуністычных, сацыял-дэмакратычных, дэмакратычных і лібэральна-дэмакратычных партыяў на ўсей тэрыторыі СССР, у тым ліку партыяў нацыянальных, патрэйцяе, найсуравейшай канстытуцыйнай забароны напаўняць агульнасаюзныя ўстановы партыі й дзяржавы прадстаўнікамі якой-небудзь з нацыяў і народаў СССР, бо СССР — гэта саюзная дзяржава і ў ей мусяць захоўвацца асноўныя нормы нацыянальнага прадстаўніцтва, пачацьвертае, скасаваньня няпісанага закону, на падставе якога становішчы старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету (у мінулым — ЦІК), Савету Народных Камісараў, Народнага Камісара Замежных Справаў і Народнага Камісара Нутраных Справаў на працягу ўсяе гісторыі ніразу ня былі занятыя прадстаўнікамі музулманскага сьвету Расеі й СССР, папятае, тварэньня на базе РСФСР раду новых саюзных рэспублік з такім разьлікам, каб адхіліць вельмі вялікую тэрытарыяльную, колькасную й гаспадарскую перавагу аднэй рэспублікі над іншымі, пашостае, наданьня ўсім саюзным і аўтаномным рэспублікам большай свабоды ў нутраным жыцьці, а першым зь іх — яшчэ й права на самастойныя, але кардынаваныя, вонкавыя, дачыненьні...» (Архіў УСС, дап. 82).

Звычайна, цяпер некаторыя пункты былі-б сфармуляваныя йначай, але найважнейшае тут іншае: так зараджвалася рэвалюцыйная дэмакрацыя; у кажным выпадку, гэты й падобныя дакумэнты, што іх перахоўвае рад жывых удзельнікаў, выдатныя ў тым сэнсе, што кідаюць яркае сьвятло на сьціраваньне (sic) думаньня ад самага пачатку зараджэньня. А гэты сам па сабе на столькі выдатны факт, што яго варта дапоўніць фактамі з жыцьця нашых людзей: работнікаў, сялян, інтэлігенцыі, вайскавікоў і кацэтнікаў. Гэта ў такой меры выдатны факт, што яго трэба зрабіць здабыткам усіх. Рэвалюцыйны дэмакрат ня ёсьць чалавекам, што стаўся антысталінцам у выніку паяўленьня гітлераўскіх штыхоў. Ён ня ёсьць чалавекам, што да 23-яй гадзіны, 59-цёх мінут быў сталінцам, а 24-яй гадзіне раптам ператварыўся на антысталінца. Не, рэвалюцыйная дэмакрацыя — гэта ідэалёгія, псыхалёгія, пераканаьне, уявы й імкненьні, якія выцерпяны **на працягу доўгіх і мучаніцкіх гадоў,** гэта сьлёзы й пот людзей розных прафэсыяў і стану, гэта сумарычнае дасьветчаньне страшнага пэрыяду калектывізацыі, гэта падсумаваньне праходжаньня цераз пургаторыі ежоўшчыны, гэта пасьпяховае перамажэньне цэлай сэрыі асабістых і калектыўных драмаў. Можна было-б прывесьці паўсотні прыкладаў таго, як, з гледзішча на спэцыфічныя ўмовы сталінскай тыраніі, звычайныя работнікі, сяляне, інтэлігенты й вайскавікі, нікому пра гэта не абвяшчаючы, у меру магчымасьцяў, моўчкі, напоўвошчупам, ішлі рэйкамі рэвалюцыйнай дэмакрацыі і, напасьледак, парваўшы ланцугі няволі, адкрыта станавіліся пад яе сьцягамі. Можна было-б улажыць вялікі сьпісак герояў і патрыётаў, што не прадавалі таварышаў навет на шыбеніцы або пад рулькай Ежоўскага пісталету. Можна было-б прывесьці прыклады запраўднага арлінага паступаньня актыўных дзеячоў рэвалюцыйнай дэмакрацыі, што апынуўшыся ў кайданах сваволі, выбіралі сьмерць, чымся ганебную і рэнэгацкую капітуляцыю.

Напішыце сто аб'ектыўных біяграфіяў, больш нічога не патрэбна, — і вы пабачыце, што 75 зь іх запраўдныя рэвалюцыянэры й дэмакраты.

Вось чаму кажны з нас забавязаны аддаваць ім належнае й бараніць іх ад паклёпніцкіх нападак.

### ЯШЧЭ РАЗ ПРА НАЗВУ КРАІНЫ

У паступовым руху рэвалюцыйнай дэмакрацыі, як сыстэмы нацыяў і народаў, ня было, няма й ня можа быць ніякага месца павароту назад. **Ніякага!** Не назад, а наперад. Не рэўстаўрацыя, але рэвалюцыйнае абнаўленьне. Добрае захаваць — благое ўдасканаліць. Няма ніякіх прычынаў вяртацца да скасаванай 26 сьнежаня 1922 году Расеі й Савецкай Расеі. Мы ведаем, што многім расейскім эмігрантам гэта няпрыемна, але сіе не залежыць ні ад нас, ні ад іх. У рэальным сьвеце прынята лічыцца з рэальнымі рэчамі, якія паказваюць, што ў сьпісках дзяржаваў сьвету ні разу ня сустракаецца такая назва. Няма яе і ў сьпісках ЗН. Ніякая дзяржава сьвету ня мае свайго пасла ў няіснуючай Расеі — затое амаль усе краіны маюць у сябе паслоў СССР. Значыцца, нам няма чаго ламаць галаву над пытаньнем: Расея ці СССР?

Аўтар гэтых радкоў хоча заявіць, што ён асабіста зусім не ўважае назвы «Расея» за лайлівае слова, але раўнюсенька ня мае ніякага значэньня тое, што мы думаем або хочам думаць.

Асабліва я сам часьценька ў прэсе ўжываю старую назву «Расея» заміж «СССР», пасколькі чужаземнаму грамадзяніну па інэрцыі яна ўсё-ж яшчэ дастаткова зразумелая, але калі гаворыцца пра фактычны стан рэчаў, пра паняцьце й катэгорыі **юрыдычныя,** то найвышшым юрыдычным доказам правільнасьці або няправільнасьці можа служыць толькі закон усіх законаў, канстытуцыя СССР, у трынаццатым пара-

(Заканчэньне на 5 балоне)

# Вайскоўцы-Беларусы!

Надыйшоў месяц лістапад. Гэты месяц накіроўвае думкі кажнага вайскоўца-беларуса на падзеі ды чыны нашага збройнага змаганьня за незалежнасьць Радзімы-Беларусі, на ахвярнасьць для беларускае справы, на тых нашых герояў-змагароў, што із моцнай верай у перамогу пачалі сьмяротнае ходаньне з чужынцам-наезьнікам, які ймкнуўся паняволіць наш народ.

Дзень 27-га лістапада — гэта іхнае сьвята. Дзень гэты быў пачаткам збройнага чыну Случчакоў, што, як тыя волаты-асілкі з нашых казкаў, выйшлі на сустрач усходнім гордам, каб собскімі целамі запыніць іхны паход-наезд дзеля паняволеньня нашае Бацькаўшчыны.

Дзень гэты стаўся й днём ушанаваньня іхнае памяці, слаўнае памяці усіх беларускіх змагароў-герояў, што аддалі жыцьцё за незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі.

Гэткіх герояў мы мелі тысячы. Пэўне, маем мы іх і цяпер, і будзем мець заўсёды, аж пакуль Радзіма нашая ня скіне чужую няволю. Бо змаганьне за незалежнасьць ідзе й будзе йсьці ўсьцяж, сяньня, як ішло учора, заўтра — як сяганьня.

Рознымі шляхамі, аднак, даводзіцца йсьці да перамогі нашым змагаром.

Там, на бацькаўшчыне — пануе сяньня жахлівы тэрор. Жыхарства падсавецкае БССР, гэтае фікцыі нашага гаспадарства, ня сьмее ўзьняць галавы, сказаць слова супраць панявольніка. Але й там гуртуюцца па лясох няўстрашныя змагары за вызваленьне Беларусі — нашыя нацыянальныя партызаны, наносячы ворагу ўдары, калі й дзе толькі мага.

За межамі Радзімы змаганьне йдзе іншай дарогай. Тутка беларускія прадстаўнікі ходаюцца за нашую будучую незалежнасьць на палітычным полі, пераконваючы сьвет аб нашай праўдзе, навязваючы сувязі ды саюзы, падпісваючы умовы, абмяркоўваючы будучыя супольныя фронты змаганьня.

Аднак, трэба памятаваць, што ўсе ўмовы, усе падпісаныя тым ці іншым прызнаньні нашае дзяржаўнасьці — ніколі не забясьпечаць незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі навет пасьля ўпадку камуністычнага рэжыму.

Калі глянуць назад, — можна прывесьці сотні прыкладаў неўшанаваньня старонамі падпісаных імі кагадзе ўмоваў. Умовы дзейнічаюць адно, пакуль гэта выгаднае тым, што іх падпісвалі. У міжнародных дачыненьнях вырашаюць тую ці іншую справу, папраўдзе, не яны, а зброя. І таму найбольш урачыста падпісаныя ўмовы, найразумнейшыя дыпляматычныя ходы забываюцца часта на працягу колькіх год, тады як збройныя чыны змагароў за нашую незалежнасьць памятуюцца з пакаленьня ў пакаленьне.

Кастусь Каліноўскі стаўся нашым нацыянальным героем толькі таму, што, імкнучыся вызваліць беларускі народ ад маскоўскае няволі, ён арганізаваў збройныя паўстаньні нашага народу.

Урад Беларускае Народнае Рэспублікі за часоў свае незалежнасьці падпісаў шмат умоваў з рознымі гаспадарствамі сьвету. Аднак, умовы гэтыя пасьля ўпадку нашае незалежнасьці апынуліся ў архівах і аб іх усе забыліся.

А збройны чын Случчыны з 27-га лістапада 1920 году стаўся нашым нацыянальным сьвятам, што ўжо гады натхняе беларускіх патрыётаў і будзе натхняць да чыну яшчэ не адно нашае пакаленьне.

Аб гэтай праўдзе ні адзін беларус не павінен забывацца, асабліва-ж нашыя вайскоўцы. Гарантыяй нашае незалежнасьці можа быць вылучна збройная сіла. Калі Беларускі народ патрапіць яе стварыць, — ён будзе напэўна незалежным.

Як і ў мінулыя гады, — гэтак і сёлета нашыя вайскоўцы не павінны забыцца аб сваіх сяброх-героях. Належна ўшаноўваючы іхную сьветлую памяць, мы будзем узвышаць гэтым свой дух, узмацьняць сваю волю да змаганьня й перамогі.

Бо мы мусім быць дужыя.

Дзень, калі нам давядзецца здаць лічбу із свайго гарту, свае наважанасьці, адвагі й адданасьці Бацькаўшчыне — набліжаецца.

Дык аддайма-ж чэсьць памяці тых, якія без засьцярогі **ўжо** ахвяравалі сваё жыцьцё Бацькаўшчыне.

Няхай ніколі не загіне ў нашых сэрцах памяць слаўных змагароў за незалежнасьць нашае Радзімы!

Няхай жыве збройнае змаганьне за вызваленьне Беларускае Народнае Рэспублікі!

Жыве Беларусь!

**Ген. Брыг. Ф. Кушэль**

Нью-Ёрк, 1 лістапада 1952 г.

Р. СКЛЮТ

# «НОВАЯ ЗЯМЛЯ» ЯКУБА КОЛАСА

**(ДА ЭМІГРАЦЫЙНАГА ВЫДАНЬНЯ ПАЭМЫ)**

(Працяг)

**Калі, як мы бачылі ў сваім** месцы, натураграфізм мастацкага мэтаду «Новай Зямлі» абгрунтоўваецца ў ей праз вобраз аўтара ў паэме, дык і ідэяграфізм знаходзіць сабе ўгрунтаваньне праз той-жа вобраз, праз тое-ж «лірычнае я», як паказвае гэта й Дзяржынскі, гаворачы аб «лірычных прэлюдыях» паэмы, як аб фоне, на якім гэты мамэнт «асабліва выпукляецца». Але, як успомнім, праз той-жа вобраз даецца абгрунтаваньне й тае рэалізацыі мастацкага мэтаду «Новай Зямлі», якая выяўляецца ў «манеры апісаньня ўсяго падрад» — у тэй апісальнасьці-«графічнасьці», калі можна так сказаць, што становіць сабою агульны рэалізацыйны мамэнт абодвух бакоў таго мэтаду і натураграфічнага, і ідэяграфічнага. Запраўды, як добра падглядзеў Адам Бабарэка, «апісальны мамэнт у „Новай Зямлі" дамінуе й падпарадкуе сабе рэшту апавядальных элемэнтаў. Дыялёг або рэпліка, або аўтарава лірычнае выказваньне найчасьцей толькі ілюстрацыя да апісальных палажэньняў. Гэта ўласьціва для культуры паэтычнае статыкі». Пры усім гэтым нельга згадзіцца з тым азначэньнем «Новае Зямлі», як «найдасканальшага выяўленьня» жанру апісальнае паэмы, якое далі ёй праф. Барычэўскі зь Дзяржынскім: яно пярэчыць ужо таму сфармуляваньню існасьці гэтага жанру, якое даў той-жа праф. Барычэўскі перад тым азначэньнем: «Апісальная паэма — паэма, у якой галоўнай задачай зьяўляецца выяўленьне прыроды або быту, а сюжэт або адсутны, або мае падлеглае значаньне». Ня кажучы ўжо пра тое, што клясычныя, «найдасканальшыя» ўзоры жанру апісальнае паэмы ў сусьветнай літаратуры, як правіла, толькі бясьсюжэтныя (як адпаведныя творы Гэзыёда, Віргілія, Дэліля, Томсана, Сэнлямбэра, Рушэ, Росэ й інш.), за сюжэтам у «Новай Зямлі» нельга прызнаць навет таго «падлеглага значаньня»: пры ўсім заліваньні яго тут апісальнясьцяй, ён усё-ж застаецца вядучым элемэнтам паэмы, празь які рэалізуюцца ў ёй усе ідэі, ускрытыя намі вышэй у гэтым творы. Нат самы загаловак «Новая Зямля» пакрывае сабою найперш сюжэт, а ня апісальны мамэнт. Дамінацыя апісальнага мамэнту прычыняецца толькі да таго, што, як адзначыў той-жа Бабарэка, сюжэт гэты будуецца «на ўзор хранікальнага апавяданьня пра жыцьцё-быцьцё аднае сям'і, як яно ішло ў звычайным парадку. Узорам будовы «Новае Зямлі» ёсьць гісторыяграфія з навочнымі малюнкамі і ілюстрацыямі, зь яе казачным спакоем і ціхаю плаўнасьцяй у вапавяданьні. Таму больш адпаведным выглядае прыведзенае ўжо намі ў іншым месцы азначэньне таго-ж Бабарэкі, што назваў «Новую Зямлю» «сямейнай або фамільнай хронікай»; сюды, дзеля большае спэцыфікацыі ў чыста-жанравай роўніцы, можна было-б хіба дадаць: «хронікай-паэмай».

Сюжэтная кампазыцыя «Новае Зямлі» суздром у палоне тае «культуры статыкі». Першым сьведчаньнем гэтага ўжо сама экспазыцыя, надзвычай зацяжная — адчыняючы паэму, яна цягнецца бязупынна аж у канец III разьдзелу, дый там не канчаецца, а пераносіцца ў канец разьдзелу IV, займае мала ня ўвесь разьдзел VI і нарэшце апошнім рэцыдывам сваім згукаецца аж у разьдзеле XVI. Адразу-ж маем яе лірычнай — гэтак, як успомнім, адразу-ж уводзіцца вобраз аўтара, праз« які таксама адразу-ж падаецца ідэялёгічная канцэпцыя «кругазвароту рэчаў» і ідэя дэтэрмінізму. Пасьля гэтай першай экспазыцыі, лірычнай формаю, а ідэялёгічнай зьместам, ідзе ў тэй-жа лірычнай форме экспазыцыя натураграфічная — перш фізыяграфічная (апісаньне прыроды вакол лясьніковае пасады), а тады этнаграфічная (апісаньне гаспадарскіх будынкаў і панадворку пасады). Далей, ужо ў разьдзеле II і III, на фоне такога-ж этнаграфічнага апісаньня нутранога быту хаты, знаёмімся з запраўдным гэроем паэмы — сям'ёй у поўным ейным складзе, у звычайным функцыянаваньні ўсіх ейных асобаў-органаў. На практыцы разьдзелу IV даецца раньняя прадгісторыя гэроя, у разьдзеле VI завяршаецца, праз вобраз аўтара, знаёмства з гэроем (як із «знаёмымі»), пры чым выясьняецца задача-задум паказу яго, абгрунтоўваецца натураграфічны мэтад «горкае праўды», лірычна «вітаецца» сталае месца дзеяньня — «новая мясьціна», а ў самым канцы экспазуюцца вобразы «малых» — Костуся й Алеся зь іхнай «дзіцячай апэрцэпцыяй». Нарэшце, у разьдзеле XVI даецца спозьненая, перастаўленая экспазыцыя вобразу дзядзькі Антося ў выглядзе ягонага «партрэту» і «дапісваючай» яго прадгісторыі. Галоўная й загалоўная сюжэтная лінія твору — лінія самой «новай зямлі» — завязваецца толькі ў канцы III — пачатку IV разьдзелаў, у паабеднай гутарцы сям'і «за сталом», але пасьля гэтае завязкі блізу ніякага вонкавага руху на гэтай лініі няма аж да разьдзелу XXVI. Рух гэты пераймае на сябе другая сюжэтная лінія — лінія «панскае службы», што найперш бярэ сабе задачу абгрунтаваньня завязкі першае лініі. Пачынаецца яна на узлоньні прадгісторыі ў разьдзеле IV, і далей рух на ёй адбываецца ў форме паасобных штуршкоў-эпізодаў (як, зрэшты, і на іншых сюжэтных лініях твору), што вядуць гэтую лінію й падтрымваюць ды абгрунтоўваюць самае існаваньне зусім статычнае тымчасам галоўнае лініі. Гэта — эпізоды «пярэбараў» (разьдзел V), «сьмерці лясьнічага» й зьяўленьня «новага лясьнічага» (разьдзелы VIII-IX) — апошнія й абгрунтоўваюць завязку галоўнае лініі, разгортаючы падрабязна ейную прадгісторыю, у якой даецца й першы выпадак гэтае завязкі, т. ск. першазавязка («і тут у першы раз Міхала вось гэта думка напаткала» — разьдзел VIII). Далей, у разьдзеле X, даецца характарыстыка самое атмасфэры «панскае службы», а ў разьдзелах XII, XVII, XXII і XXIII — зноў асобныя эпізоды («сэсыя», алегарычны эпізод з ваўком, «панская пацеха» — паляваньне на глушчоў), што разгортаюць усю характарыстыку й вядуць далей тую-ж лінію, а галоўную калі й падтрымваюць, дык толькі ўскосна й агульна, а не беспасярэдня й канкрэтна. За ўвесь гэты час на галоўнай лініі маем толькі адзін штуршок

4

— маленькі эпізод гаворкі Міхала з Антосем пра «дзьве рэчы» — розум і грошы, патрэбныя для рэалізацыі ейнае завязкі. Гэтым-жа часам разьвіваюцца й іншыя, сказаць-бы, ніжэйшыя сюжэтныя лініі твору, найперш — лінія дзядзькі Антося, якую вядуць такса штуршкі-эпізоды, пераважна, камічнага характару (часткава такі характар маюць і некаторыя эпізоды лініі «панскае службы»): выпадак зь дзядзькавым «кухарствам» (разьдзел VII), зь «дзедавым чаўном» (разьдзел XI). З гэтай лініяй пераплятаецца лінія дзіцячая (як добра падгледзеў акад. Замоцін, «бліжэй усяго да дзядзькі Антося стаяць дзеці»). Яе вядуць эпізоды ўдзелу дзяцей у «падглядзе пчол» (разьдзел XIII), іхнага вучэньня (разьдзел XIV), зь якога асобна выдзелены эпізод з «начаткамі» (разьдзел XV), Костусявага «канфлікту зь Езусам» (разьдзел XVII), паляваньня на тхара й іншых зімовых уцехаў (разьдзел XVIII-XIX), нарэшце, выпадак з «таемнымі гукамі» (разьдзел XXI). Усе гэтыя лініі часам зусім тонуць у навале апісальнасьці, этнаграфічнага й фізыяграфічнага характару, якая напару залівае спрэс цэлыя разьдзелы (XIII, XX, XXIV, XXV), творачы як-бы сваю асобную лінію ў творы й моцна тамуючы рух на іншых лініях. Нарэшце, у разьдзеле XXVI аднаўляецца галоўная сюжэтная лінія, беспадзельна запаноўваючы ўжо да канца твору. Аднаўленьне гэтае даецца праз рэтраспэкцыю на пачатку гэтага разьдзелу, дзе пераказваецца, як «Міхал station..., ненарокам іш ў да мэты крок за крокам; ён паскупеў і навет значна»... Далей лінію вядуць эпізоды «агляду зямлі» (разьдзел XXVI) і афармленьня купоўлі яе ў банку (разьдзелы XXVIII-XXIX). Усе іншыя сюжэтныя лініі або згасаюць на ўлоньні галоўнае (як лінія дзіцячая, што гасьне на разьвітаньні Алеся й Костуся зь Міхалам і Антосем пры ад'езьдзе апошніх на «агляд зямлі») або зьліваюцца зь ёю (як лінія дзядзькі Антося, што ў разьдзелах XXVII—XXIX зусім пакрываецца галоўнаю, ня трацячы аднак пры гэтым свайго ранейшага камічнага характару). Нат «лінія» апісальнасьці сьціскаецца й кандэнсуецца ды разам з тым выводзіцца, сказаць-бы, на шырэйшыя й глыбейшыя воды; этнаграфія й фізыяграфія зьліваюцца ў геаграфію, у роўніцы якой даюцца абразы найбагацейшае правінцыі Беларусі Случчыны (разьдзел XXVI) й найпрыгажэйшае мэтраполіі краю — Вільні (разьдзел XXVIII); усё гэта адбываецца ў вадпаведнасьці з узмацненьнем ідэяграфічнага й падаванага празь яго нацыянальна-ідэйнага мамэнтаў. Нарэшце, у вапошнім разьдзеле XXX ня толькі падрыхтоўваецца, але й даецца раптоўная разьвязка — сьмерць Міхала, якую фарсуе дый у ёй трыумфуе пададзеная ў першых радкох экспазыцыі ідэя; на ёй увесь сюжэт абрываецца, тоне ў заключных лірычных аўтаравых рэфлексыях безь якога-небудзь дасказаньня — эпілёгу.

Як відаць з накінутага намі тут упяршыню абраза сюжэтнае кампазыцыі «Новае Зямлі», не адзначаецца яна ня толькі дынамічнасьцяй, але й стройнасьцяй, прапарцыянальнасьцяй частак і сымэтрычнасьцяй разьмяшчэньня іх. Гэта — няўхільны вынік прынятага хранікальнага прынцыпу пабудовы твору, што сваім парадкам, карэніцца ў больш агульным натураграфічным прынцыпе, зьвязаным заўсёды з пэўнай пасыўнасьцяй аўтара-натураграфа, як мастака. Усё ў паэме даецца, «як яно ішло ў звычайным парадку», як добра сказаў Бабарэка, мастак не спрабуе трансфармаваць гэтага парадку, надаць яму пэўнае мастацкае стройнасьці. Тое-ж бачым і ў вонкавай архітэктоніцы твору, у якой Байкоў добра адзначыў «несуразьмернасьць разьдзелаў», падаўшы адпаведныя лікі (I разьдзел — 260 радкоў, II — 322, V — 352, VII — 294, XII — 415, XII — 415,

# Жаночая Старонка

## Нашыя заданьні

Пачынаючы выдаваньне «Жаночай Старонкі», мы ставім ясна перад сваімі вачыма мэту й значэньне гэтага пачыну.

Роля жанчыны выключна, як жонкі й маткі, сэрца сям'і належыць сяньня поўнасьцю да пройдзенага этапу не духовага разьвіцьця. Захоўваючы ўсе пазытыўныя рысы гэтага аснаўнога тыпу беларускай жанчыны, сяньня ўжо далучаюцца да іх рысы й асаблівасьці жанчыны-грамадзянкі, жанчыны-грамадзкай працаўніцы, сяброўкі сваей жаночай арганізацыі.

Умовы на эміграцыі спрыялі й дазволілі поўнасьцю выкрышталізавацца гэтым параўнаўча новым рысам нашага характару. Жанчыны зьяўляюцца на эміграцыі дзейнымі сябрамі ўсіх нашых грамадзкіх арганізацыяў і ўстановаў, болей навет — жанчыны пачынаюць арганізаваць свае адумысловыя арганізацыі жаночыя і весьці ў іх працу самастойна, часта з выдатнымі вынікамі навонкі.

Гэтая арганізацыйная праца пачалася ў беларускіх лягерах у Нямеччыне, дзе канцэнтравалася бадай што ўсё эміграцыйнае жыцьцё зь ягонымі дадатнімі й адмоўнымі бакамі. Першыя спробы жаночай грамадзкай дзейнасьці далі ў свой час нядрэнныя рэзультаты. Заахвочаныя гэтым жанчыны разгарнулі сваю працу шырэй і шырэй.

На жаль, эміграцыя ў іншыя, часта заакіянскія краіны перарвала гэтую працу, але не яе спыніла. Відаць, на ўдзячную і падрыхтаваную глебу падалі першыя зярняткі нашага арганізаванага пачыну, бо як толькі абсталяваліся нашыя новыя «амэрыканкі», «аўстралійкі», «аргентынкі» і пад., падумалі й аб сваіх жаночых арганізацыях. Ня лёгка часам прыходзілася, ня раз вялікая адлегласьць разьдзяляе іх, перашкаджае недахоп часу, але дарма — беларусы народ упарты. Паўстаюць жаночыя арганізацыі амаль у кажнай краіне рассяленьня беларускай эміграцыі.

У сувязі з цяжкім, амаль катастрафальным палажэньнем ня выэміграваўшых нашых суродзічаў заходзіць патрэба арганізаваньня ім дапамогі. Жанчыны бяруць на сябе ініцыятыву й праводзяць гэтую акцыю дапамогі, а вынікі гэтае ахвярнае працы не даюць на сябе чакаць. Жанчыны зьбіраюць ахвяры, шлюць пачкі, разьдзяляюць атрыманае, пашыраюць акцыю дапамогі, самі сваей ахвярнасьцю стараюцца даць добры прыклад.

Ім-жа ня прывыкаць. Гэтак рабілася й некалі, як прыкладам у Остэргофне, калі стаўлялі яны яшчэ першыя свае крокі ў гэтай харытатыўнай дзейнасьці. Сяньня яны ўжо маюць за сабой стаж, яны ідуць сьмела, яны сьведамы сваіх заданьняў: рабіць дабро, несьці дапамогу сваім нешчасьлівым суродзічам, рабіць яго арганізавана, гуртуючыся ў свае жаночыя арганізацыі, спрыяць і падтрымоўваць усе праявы нашага нацыянальна-вызвольнага змаганьня, папулярызаваць пры кажнай нагодзе нашае нацыянальнае пытаньне ці то праз выстаўкі нашага народнага мастацтва, працы нашых рук, ці праз ладжаньне ўсякага роду імпрэзаў, ці напасьледак словам-паясьненьнем.

А побач з гэтым застацца такімі, якімі мы пакідалі нашыя родныя хаты: рэлігійнымі, спагадлівымі, глыбока маральнымі. Быць сьведамымі, што на нас лёг абавязак захаваць і перахаваць адвечныя прыгожыя нашыя родныя звычаі, нашую традыцыю, песьню, нацыянальную вопратку. Захаваць і перахаваць тую бязьмежную любоў да бацькаўшчыны, у гэтай любові да свайго роднага беларускага выхаваць дзяцей сваіх. А калі пакліча бацькаўшчына, быць гатовымі стаць на яе кліч, стаць на тую пазыцыю, дзе-б маглі быць карыснымі і ў меру магчымасьцяў спрычыніцца побач з мужчынамі да яе вызваленьня.

Усе гэтыя заданьні паможа нам зразумець і выканаць як найлепей свая жаночая арганізацыя і свая, на першы пачатак можа й за надта скромная, жаночая прэса — на сяньня ў выглядзе «Жаночай Старонкі». «Жаночая Старонка» няхай будзе нашай свабоднай трыбунай. Тут зможам мы выказаць свае думкі, сумляваньні ці прапановы, даведацца нечага, нешта стварыць самім. Тут мы падзелімся сваімі арганізацыйнымі посьпехамі, ці нат няўдачамі, тут знойдзем мы духовую страву, падтрыманьне. «Жаночая Старонка» будзе прыпамінаць нам нашую бацькаўшчыну й будзе адлюстроўваць нашую працу, яна будзе знаёміць нас з выдатнымі жаночымі постацямі ў сьвеце, з жаночым пытаньнем на Захадзе, яна будзе ў канцы імпульсам для нашых пісьменьніцаў і станецца школаю для нашых пачынаючых журналістак.

Прымем-жа «Жаночую Старонку» шчыра, аднясёмся да яе, як да нашага дзіцяці, прыгажэй яе ўбяром, дагледзім, каб здаровым было гэтае нашае дзіцё, каб шчасьліва гадавалася.

Першы блін комам — гаворыць прыказка, а ў прыказках адбіваецца мудрасьць народу. Дык не дапусьцім, калі гэта й выдаса каму праўдай, каб і далейшыя бліны былі комам, пастараемся, каб гэтыя бліны былі добра выпечаныя й смачныя. Для гэтага трэба, папершае, чытаць сваю «Жаночую Старонку» і, час ад часу, нешта ў яе й напісаць. Застаецца нам спадзявацца на Вашую дапамогу, Сяброўкі-Грамадзянкі!

**Рэдакцыйная Сэкцыя Жаночага Згуртаваньня ў Нямеччыне**

## Мамі Айзэнгаўэр

Кажны навет эўрапэец, а ня толькі амэрыканец, знае добра, хоць-бы толькі з фотоздымкаў, генэрала Айзэнгаўэра зь яго ведамай прыемнай усьмешкай. Аб ягонай-жа жонцы да перадвыбарнай кампаніі ня было амаль і гутаркі.

Жонка Айзэнгаўэра, дзявочае прозьвішча Даўд, мае сяньня 56 гадоў, адзіны сын яе маёр Джон Айзэнгаўэр знаходзіцца ў Карэі. Мае яна трох унукаў, найстаршы зь іх чатырохгадовы Двайт II ёсьць надта падобным да свайго дзеда генэрала.

«Дзеля ўнукаў сваіх — кажа Мамі Айзэнгаўэр — прыняў мой муж кандыдатуру на прэзыдэнта. Ён хацеў-бы забясьпечыць мір для другога й трэйцяга пакаленьня».



**Моцна задаволены пачынае Двайт Айзэнгаўэр працу над пышным тортам, які сьпяклі ў дзень ушанаваньня яго выбару на прэзыдэнта ЗША жанчыны Амэрыкі. Шчасьлівая Мамі спадзяецца таксама атрымаць кусок для ўшанаваньня гэтага вялікага сьвята.**

Дзеля наступнага пакаленьня, для яго шчасьлівага разьвіцьця прыняў на сябе цяжкі й адказны абавязак прэзыдэнта генэрал Айзэнгаўэр, а жонка ягоная Мамі (матуля) становішча «Першай Дамы» ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі.

36 гадоў таму назад прыгожая маладая дзяўчына Мамі Гэнэва Даўд кажную нядзелю выяжджала з бацькамі і цэлай сям'ёй на прагулку ў конным вупражы, якім гардзіўся яе бацька. Аднойчы, у 1915 годзе, такое сямейнае падарожжа прывяло іх ў горад Сэм Гаўстон у Тэхсасе. У горадзе стаяў гарнізон, а малады лейтэнант, які якраз меў у гэты дзень службу, запрасіў маладую дзяўчыну аб'ехаць зь ім пасты.

Восем месяцаў пазьней адбылося вясельле. Ад таго часу верна стаіць Мамі пры боку свайго мужа ў цяні ягонай хуткай і бліскучай кар'еры, заўсёды добрая жонка й матка, добрая грамадзянка.

Падчас выбарчай кампаніі можна было бачыць яе на плятформе цягніка: яна лашчыла дзяцей, давала аўтографы, адказвала пры дапамозе сваіх дзьвюх сакратарак на 500 пісьмаў у дзень, перад натоўпам выбаршчыкаў, якія арганізавалі яе мужу авацыі, абыймала й цалавала іх, запэўніючы, што любіць яго так, як 36 гадоў таму назад. Некаторыя цікавяцца й задаюць сабе пытаньне, як будзе іграць ролю «Першай Дамы» Мамі Айзэнгаўэр. А Мамі, здаецца, не пераймаецца й не клапоціцца гэтым. Ролю гэтую будзе іграць яна так, як падказала ей яе жаночае сэрца быць добрай грамадзянкай, жонкай, маткай і бабкай праз доўгія гады.

«Ніхто ня хоча верыць — кажа яна — што гэтае імя Мамі (матуля) у запраўднасьці я атрымала пры хрышчэньні, і я павінна ўсьцяж паўтараць, што гэтае імя я атрымала ад цёткі маей бабкі Мэры Даўд, якія мелі іх як пяшчотнае імя ў сваіх сем'ях.» І хіба ў спадчыне па сваей бабцы атрымала Мамі тое цёплае матчынае сэрца й, відаць, ня раз аказала яго ў дачыненьні да сваіх блізкіх і знаёмых, што так імя гэтае прыпала да асобы Мамі Айзэнгаўэр, бо інакш яе і не называюць.

Ужо ў 20 годзе, калі давялося ей з мужам быць нейкі час у Парыжы, іх малое памешканьне называлі іхнея сябры «Клюбам Айзэнгаўэра», а блізкі ад іх памешканьня мост Мірабо — «Понс Мамі». «Мамі вартая 50 выбаршчыкаў» — пісаў І. Рэстон у «Нью Ёрк Таймс» падчас выбарчай кампаніі. Колькі ўзапраўды варта добрая грамадзянка, добрая жонка, матка і бабка ў сям'і, ведае кажная добрая сям'я, а яе собская найлепей.

## Сьвята памерлых

Сумная пара году — восень, асабліва яе апошні месяц лістапад. Сумна, нейк безнадзейна тырчаць угару голыя галіны дрэваў, як-бы дрыжаць ад холаду і просяць цяпла, сонца.

Плача асеньняе неба, стогне вецер, толькі, здаецца, сядзець-бы ў хаце пры печцы й нідзе ня выходзіць.

Адно-ж, як на зьдзіў, заварушыліся людзі ў гэты пахмурны асеньні дзень. Заварушыліся і паплылі ўсе ў вадным кірунку — на магільнік. Сяньня — сьвята памерлых, сяньня ўсе жыхары прыгожага баварскага гораду Розэнгайму ўспамінаюць сваіх родных, знаёмых і блізкіх ім асоб, якія памерлі. Сяньня жывыя ідуць да іх на магілкі, упрыгожваюць іх, запальваюць сьвечкі, нясуць ім цяпла з жывых сваіх сэрцаў.

Немцы на зьдзіў паважна й салідна адносяцца да сваіх абавязкаў: ніводная магіла не асталася вонкі ўвагі, усе міла прыбраны, на ўсіх гараць шматлікія сьвечкі, пры кажнай моліцца людзі.

У канцы магільніка знаходзіцца адна невялікая парцэля, там хаваюць «аўсьлендараў», выгнаньнікаў, якіх сюды закінуў з родных загонаў злы кон. Няма на гэтай частцы магільніку прыгожых памятнікаў, ня зьдзіўляюць сваей сьвежай бельлю пышныя хрызантэмы. Тут абы сьціплыя малыя крыжы, невялікія простыя памятнікі, а то й толькі пахіленыя старыя ўжо крыжыкі. Але ў гэты дзень і гэтая частка магільніку прыбраная. Зялёнымі яловымі лапкамі ўкрылі жаноцкія рукі градкі магілаў, усё роўна, хто тут спачывае, усе магілкі ачышчаныя ад старога лісьця, гараць на іх таксама сьвечкі. Пры магілках дрэнна апранутыя бедныя людзі. Яны прыйшлі сюды зь лягеру, прыйшлі, каб адзначыць сьвята памерлых.

Рэдка хто мае тут сваякоў або знаёмых, але гэта нічога. Важна, што тут ляжаць такія самыя, як і яны, выгнаньнікі, адарваныя ад сваіх родных загонаў, ляжаць у чужой нямецкай зямлі. Важна, што сяньня іх сьвята, што й на іх магілках трэба запаліць сьвечкі, трэба памаліцца за супакой іхных душаў.

Пахіляецца бледная жаночая постаць над магілкай, вось яна згледзіла, што на двух магілках не гараць яшчэ сьвечкі. Дастае зь кішэні й стаўляе на магілку харвата сьвечку, а сама-ж яна полька! Тут няма нацыянальных розьніцы, згодна побач сьпяць вечным сном выгнаньнікі з розных краінаў, людзі розных нацыянальнасьцяў. Горача, шчыра моляцца жывыя выгнаньнікі, разам зь імі каталіцкі ксёндз, моляцца і праваслаўныя. Ці-ж ня ўсё роўна, у які дзень і пры якіх абставінах, сяньня-ж на магільніку ў Розэнгайме сьвята памерлых!

Паміж пару соцен магілак ёсьць некалькі й беларускіх. Вось на аднэй стаіць памятнік, прыемна песьціць вока беларускі надпіс: «Тут спачывае, перажыўшы ўсе жудасьці вайны й выгнаньня, стары беларус з Наваградчыны Якаў Віткоўскі». Вось другая магілка, яна зусім запала ў зямлю. На ёй маленькі пахілены крыжык, а на ім дзьве літары: «Л. В.» Дбайлівая рука старога беларускага вэтэрана прыбрала магілку, укрыла шчыльненька зялёнымі сасновымі лапкамі, пахне прыемна смалою, гараць сьвечкі. Узносіцца малітва

(Заканчэньне на 4 балоне)

## Казка аб Праўдзе

Гэта было даўно. Жыў у сяле із саламянымі стрэхамі, ля крышталёва імчучай свае воды ракі, сярод яшчэ не апаганенай чужакамі-прыблудамі беларускай пушчы, жыў тады хлапец, якога ўсе звалі вясёлым хлапцом. Ён заўсёды ўсьміхаўся, меў васільковыя вочы і адважнае, палымянеючае сэрца. Дзе ён праходзіў, там прыгажэй цьвілі краскі, лашчыліся да ягоных ног, а пяюлі-птушкі змаўкалі, заслухоўваліся вясёлай беларускай песьняй, што была ягонай сталай сяброўкай.

Аднойчы маці вясёлага хлапца, праходзячы праз панадворак, стала і пачала ў неразуменні аглядацца й прыслухацца да цішыні: ейны сын болей не пяяў заўзята «Лявоніха». І навет ягоныя раней іскрачыя радасьцю вочы болей не сьмяяліся, сталі блеклымі й смутнымі, а вусны хлапцовы не адкрываліся для ўсьмешкі навет да каханай дзяўчыны. Дзяцюк над нечым думаў. Ён ужо ня супараваў песьняй із салоўкамі. Крокі ягоныя рабіліся штодзень цяжэйшымі.

Пасмутнела й маці, бо ёй шкада было засмучанага сына, што працаваў і думаў ды ўночы доўга варочаўся з боку на бок, ня спаў і думаў. Але ня мог ён адужыць сваіх думак і быў смутным і нягутарлівым.

І аднойчы сказаў маладзён матцы:

— Маці, калі я сьмяяўся, пяяў і скакаў, дык я думаў, што ўсё на сьвеце прыгожае й добрае. Але я так уважаў адно таму, што нічога ня ведаў аб родным краі, аб ягонай вялікай крыўдзе. Матуля, я пайду ў сьвет шукаць Праўды аб родным краі.

Маці не пярэчыла сыну, бо і сама адчувала, што народную Праўду злыя суседзі-чужнікі захавалі дзесь далёка. І хоць шкода ей было свайго адзінага сына, але была Крывічанкай і над усё жадала волі роднай старонцы. Таму раніцай наступнага дня яна дала сыну свае багаслаўленьне і паклала ў падарожную торбу хлеба. Гэтак раніцою дзяцюк, праведзены сваей матуляй, разам з усходам сонца пакінуў бацькаву хату, дзе ён вырас, дзе так шмат сьпяваў родных песьняў і дзе разьлівалася ягоны вясёлы сьмех бяз схіляючых галаву думак аб Праўдзе роднага краю.

Іскрачыя праменьні сонца асьвятлялі гасьцінец пад спружыністымі крокамі юнака, бярозы абапал яго насычалі паветра прыемным пахам, а птушкі пялі свае песьні славы ўзыходзячаму жыцьцядайнаму сонцу. Але вясёлы хлапец, што ўжо даўно ня быў вясёлым, нічога гэтага ня чуў і ня бачыў. Ён цьвёрда крочыў і думаў сваю думку. Аднак ніхто ня мог нічога адказаць хлапцу, бо кажны меў сваю асабістую праўду, якая хлапцу не адказвала.

Мінулі гады, як вясёлы дзяцюк пакінуў сваю бацькаўшчыну. У чужых далёкіх краёх, дзе хадзіў ён цяпер, шукаючы Праўды Беларусі, пытаючыся аб ёй у людзей, што ніхто не разумеў, часам сьмяяліся зь яго і толькі рэдкія зь іх спагадліва паглядалі яму ў сьлед. Шмат, ой шмат даведаўся і чуў дзяцюк аб Праўдзе, аднак усё гэта яго не задавольвала. Міналі гады за гадамі, а дзяцюк усё яшчэ думаў, шукаў і пытаўся па сьвеце аб Праўдзе Беларусі... Ён ужо страціў і лік дарогаў да роднага краю, але ведаў, што Бацькаўшчына тамака, дзе ўзыходзіць сонца. Часам яго агартаў смутак і туга па родных нівах, па бацькаўскай хаце і па пэўна ўжо сівенькай маці. Хвілінамі ён траціў навет надзею адшукаць праўду звычайную, а ня то каб Праўду Беларусі. Аднак хвіліны хістаньня мінулі й дзяцюк зноў крочыў па новых краёх, бо меў загартаваную волю змагара і, пачаўшы шукаць Праўду, мусіў яе знайсьці або згінуць...

Калі ён зь дзяцюка стаўся сталым мужчынам, дык нейк спаткаў чалавека, які ведаў паказаць яму дарогу да агульнае Праўды. Той сказаў, што гэта вельмі далёка й дарога цяжкая, небясьпечная. А пэўне-ж, там дзесьці будзе знаходзіцца й Праўда Беларусі, загнаная, схаваная і зьняважаная ворагамі-чужакамі. І ўваскрэсьлі, адналіся сілы, што пачыналі ўжо заламвацца ў дзяцюка. З захапленьнем ён падаўся ў далейшую дарогу. Доўга йшоў ён, перамагаючы ўсе перашкоды, якія падстаўлялі яму розныя злыдні, аж пакуль не апынуўся ў дрымучым лесе, дзе па словах незнаёмага мусіла прабываць Праўда. Лес быў вялікі, глухі, старавечны, у якім не прабівалі сабе дарогаў нат праменьні залацістага сонца. Некалькі дзён ён блудзіў па цемры гушчараў, гукаючы Праўду. Навет сінеючага неба й ясьнага сонца ня мог згледзіць дзяцюк, бо іх не дапушчалі ў свае валаданьні вершалі магутных хвояў і таўшчэзных лістовых дрэваў. Начамі, наводзячы жах, вылі наўкола нябачныя зьвяры, халадзілі кроў нябачаныя й нясьнёныя прывіды, манілі й вабілі ў розныя бакі прыгожыя прывабы... Але дзяцюк, перамагаючы ўсё, наўхільна прабіваўся ў гушчарох. Міналі дні, цяжкія, змораныя, аж пакуль аднаго зь іх ня выбіўся шукальнік на лясную прагаліну, дзе ўбачыў пахіленую ад старасьці хаціну. Страха хаціны, паросла мохам і травінкамі, выглядала хутчэй на ўзгорак. Дзюркаватыя, струхлелыя дзьверы толькі трымаліся ў вушаках, а сама хаціна пакорліва і жаласліва глядзела на дзяцюка, хоць і сам ён быў ужо сівым дзедам. І змораны дзяцюк адчуў павяртаючую да яго вясёласьць, бо ён ведаў, што ў гэтай хаціны знойдзе схаваную Праўду.

Сьмела і ўпэўнена адчыніў схіленыя дзьверы. У цемры хаціны стаяла сівым-сівая жанчына ў лахманох. З пад яе бескалёрнае ад даўнасьці хусткі зьвісалі пасьмы сівых, як туман, валасоў. Твар яе выглядаў сьвежа ўзораным полем, а бескалёрныя выглядзяжаныя вочы ня мелі жыцьця. Трыманая ссохлай рукой лыжка, як адзіная азнака жыцьця, нешта мяшала ў гаршку.

Падарожны ўзноў запытаўся аб тэй, якую так доўга і ўпорыста шукаў, хоць сам ні на часіну ня сумляваўся, што знайшоў Праўду.

— Але, але, гэта я ёсьць тая Праўда. Мала цяпер гэткіх, якія жадаюць яе спаткаць ці пабачыць, а ня тое, каб шукаць — адказала Праўда.

Старая шчыра частавала зморанага падарожніка кашаю, але смаку ежа ня мела. Доўга гаманілі яны з старою... Але час не чакаў і, набраўшыся новае сілы, дзяцюк мусіў рушыць у паваротную дарогу. Ён адчуваў сябе шчасьлівым, поўным сілы, бо быў адным із нямногіх, якія бачылі й размаўлялі з Праўдай.

— Ні ты, ні хто іншы па аднаму ня знойдзеце вашай Праўды Беларусі, — павучала Праўда. Вашыя ворагі пахавалі яе пад глыбокімі пластамі попелу з папаленых архіваў і дакумэнтаў слаўнае мінуўшчыны. Яны й дагэтуль ня скончылі падрабляць, перарабляць, хвалышаваць і зьнішчаць іх так, каб нікому і ў дум ня прыйшло шукаць яе ў запраўдным месцы, а тым болей змагаць перашкоды й пакуты ў змаганьні за яе. Але ўжо хутка, хутка падымуцца маладыя, дужыя, валадарныя нашчадкі волатаў магутных і вызваляць яе — вашую Праўду. У іх стане сілы й вытрывалаcьці ўзяць яе з боем зь дзярлівых рук вашых ворагаў. І ўваскрэсьне яна ад пралітае за яе жывое жыцьцядайнае крыві... — скончыла свой сказ старая.

Але калі падарожны ўжо пераходзіў праз зьбіты згнілы парог, старая затрымала яго за руку і на разьвітаньне, пабагаславіўшы яго, прашаптала:

— Ідзі шчасьліва да свае бацькаўшчыны й занясі ўсім вестку аб хуткім уваскрашэньні вашае Праўды!

* * *

Зусім пасівелым вярнуўся дзяцюк да свае хаты, як зьвястун уваскрашэньня Праўды Беларусі. І ня меў ён ужо болей жаданьня шукаць па сьвеце Праўды, бо ведаў, што Праўду Беларусі ўваскрэсяць толькі яе сыны няўтомнай, няспыннай працай і ахвярным змаганьнем, праліўшы ў бойках за яе сваю жыцьцядайную кроў.

**Ніна Змагарка**

# Беларуская жанчына ў Аўстраліі

Горкая доля выгнала нас з роднае бацькаўшчыны й расьсеіла па шырокім сьвеце, але, Богу дзякаваць, мы яшчэ трапілі ў вольны сьвет, дзе мы не баімся гутарыць роднай мовай, маліцца Богу і песьціць любоў да бацькаўшчыны і ўсяго роднага, у гэтым духу выхоўваць дзяцей і гэтым ужо часткова будаваць будучыню нашага народу. За гэта нас тут ніхто не перасьледвае, а нат мы тут часамі можам сустрэць некаторае зразуменьне й спачуваньне.

Нас беларускіх жанчын у Аўстраліі ня шмат, бо і наагул беларусаў тут мала. Прыехалі мы сюды ў вялікай бальшыні транспартамі былых ДП, а таму падлягалі двухгадовым кантрактам працы былі расьселеныя паводле пляну тутэйшага ўраду. Гэта нас раскінула па розных кутках Аўстраліі й часьценька беларуска ад беларускі аддзеленая тысячнымі мілямі. Аднак мы й праз гэта не разгубіліся ,навязалі перапіску й працавалі ў розных галінах тутэйшага беларускага грамадзкага жыцьця й працы.

Шмат нас тут ёсьць сяброўкамі яшчэ Жаночага Згуртаваньня ў Остэргофэне й іншых нашых асяродкаў у Нямеччыне. Калі мы даведаліся аб аднаўленьні Жаночага Згуртаваньня ў Нямеччыне, мы не маглі астацца й далей бязьдзейнымі, асабліва ў такіх галінах, як дапамога блізьняму, ня могшаму выэміграваць, які астаўся й надалей над нямецкай «апекай».

У Брысбэйне была заснавалася ініцыятыўная група па заганізаваньні Згуртаваньня Беларускіх Жанчын у Аўстраліі, кажная жанчына атрымала ў гэтай справе лісты, адгукнулася беларускае жаночае сэрца і шмат беларусак зьявілася да працы ў сваей беларускай жаночай арганізацыі. Выбраны за пасярэдніцтвам лістоў (рэфэрэндум) урад арганізацыі з асяродкам у Брысбэйне. Арганізацыя зьвярнулася з заклікам да нашых спадарынь і спадароў прыйсьці з дапамогай нашым блізьнім, што асталіся ў Нямеччыне. Адгукнулася шмат і прыслалі, што маглі, за што вялікае ім дзякуй. Так-жа знаёмыя нашыя аўстралійцы і тыя паспачувалі нам і злажылі свае ахвяры. Аднак зь не малой больлю трэба адцеміць і адну горкую праўду, што частка нашых суродзічаў так і засталася з боку й ня цікавіцца нашай працай. Але трэба спадзявацца, што гэта з тэй прычыны, што яны далёка ад нас і таму ня так блізка ўсё гэта ўспрымаюць. Але верым, што гэта не патрывае доўга і кажная беларуска ў Аўстраліі будзе сяброўкай Згуртаваньня Беларускіх Жанчын.

Як нам тут цяжка ня жывецца, асабліва ў гэтым раскіданым стане, усё-ж мы ўжо палажылі моцныя падваліны й заснавалі нашую жаночую арганізацыю, за працу ўзяліся выпрабаваныя жыцьцём беларускі, з усіх бакоў наплываюць лісты з пажаданьнямі, з жаданьнем атрымаць інфармацыі. Так вось нам піша спадарыня Ганна Раецкая з Пэрт: «Вітаю сваю жаночую арганізацыю, жадаю посьпеху ў працы на карысьць нашае Бацькаўшчыны Беларусі. У нашым хрысьціянскім і беларускім абавязку нясьці дапамогу нашым блізьнім, не патрабуючым. Я з свайго боку зраблю ўсё, каб быць карыснай у нашым змаганьні й дапамозе нашым суродзічам і пашыру нашу працу й нашыя заданьні сярод нашых жанчын у вакрузе Пэрт».

Амаль у кажным куточку Аўстраліі знойдзецца беларуская жанчына, што даглядае сваю сям'ю і гадуе сваіх дзетак. Часьценька нашыя жанчыны жывуць не ў гарадох, а ў глухіх лясох і стэпах Аўстраліі, дзе ня сьціхаючы крычыць кукабара і вольна скача кенгура. Але нашыя дзеткі і тут гадуюцца на беларусаў, і тут слухаюць апавяданьні пра нашыя белыя бярозкі, мурожна-пахучыя сенажаці, мілыя рэчкі.

Калі воляй Усемагутнага нам заашчаджана Сталінскага тэрору й дадзена магчымасьць жыць, мы не змарнуем гэтага вялікага Божага дару, а выхаваем сыноў і дачок нашаму народу на службу. Ня раз баліць тут жаночае сэрца беларускай маці, бачучы сваё дзіця ў чужым краю, у некаторых недастатках, але ўсё праясьняецца, калі дзіця дапытваецца пра Беларусь, а шмат нашых дзяцей — гэта эмігранты з нарадженьня, якія яшчэ сваімі вочкамі не аглядалі нашай бацькаўшчыны і сяньня ўяўляюць яе, як краіну нейкіх цудоўных і прыемных чараў. Так-жа ня рэдка бывае, што і дзеці вядуць усьведамляючую працу сярод аўстралійцаў пра Беларусь, расказваючы пра нашыя кветкі й рэчкі, замкі і магілы нашых герояў. Адзін толькі недахоп даецца ў знакі — гэта нястача дзіцячай літаратуры і школьных падручнікаў для большых дзяцей. Трэба апэляваць да нашых грамадзкіх ворганаў і выдавецтваў, каб нешта рабілася ў гэтай галіне. Так-жа тут належыцца шчыра падзякаваць выдаўцом «Каласкоў» і пажадаць ім посьпеху й роськвіту.

Згуртаваньне Беларускіх Жанчын у Аўстраліі намеціла сабе плян працы з двума найбольш важнымі пунктамі: дапамога блізьняму і дапамога ў выхаваньні беларускіх дзетак у Аўстраліі на добрых будучых беларусаў. З Божай дапамогай і пры супрацоўніцтве зь іншымі тутэйшымі грамадзкімі арганізацыямі, а перадусім з Задзіночаньнем Беларускіх Вэтэранаў, асягнем намечаныя пляны й выканаем наш жаночаграмадзкі й хрысьціянскі абавязак. І ў гэтым нашае жаноча-мацярынскае сэрца знойдзе адпачынак і духовую раўнавагу ў гэтай далечы і дазволіць нам вярнуцца на бацькаўшчыну годнымі імя беларускі.

Эўл. Яцк.

# Сьвята памерлых

**(Заканчэньне)**

да Ўсемагутнага за душу Лявона Байдалава. Тут у гэтай запаўшай магілцы сьпіць беларус, жаўнер Краёвае Абароны, бацька трох сыноў, якія таксама пакінулі гэты сьвет. Ня шчасьціла ім доля: аднаго жаўнера беларускай дывізіі замучылі ў Францыі французкія камуністыя, другога французы выдалі бальшавіком, трэйці загінуў бязь вестак. Бацька заснуў апошні.

Дадзеныя гэтыя можа й за мала дакладныя, але ці трэба дакладных: яны памерлі ўсе для той самай няўміручай ідэі Случчакоў, каб жыла Бацькаўшчына. Яны памерлі, але памяць аб іх, аб кажным зь іх з тых соцень тысячаў, якія палі ў змаганьні за гэтую сьвятую ідэю, мы перахаваем, гэта наш абавязак — жывых!

Як-жа мы яго выконваем?

Западае ў зямлю магілка Байдалава, западаюць шматлікія другія магілкі беларускіх вайскоўцаў па ўсей Нямеччыне, уніз хіліцца малюсенькі крыжык з двума літарамі... А мы на акадэміях перад сымбалічнымі магілкамі пускаем сьлязу, выслухоўваем рэфэратаў аб паўшых героях і гэтым свой нацыянальны абавязак уважаем выкананым. А запраўдныя магілкі занядбаныя, забытыя...

Зь ініцыятывы аднаго вэтэрана з Розэнгайму, які зьвярнуўся да некаторых беларускіх арганізацыяў, каб дапамаглі заапякавацца гэтай магілай, адгукнуліся толькі адзіныя беларускія вэтэраны з Аўстраліі, у ліку якіх якраз ёсьць шмат безработных. А тыя нашыя суродзічы, якія найлепш маюцца матарыяльна ў Амэрыцы, не адказалі на заклік наагул, а тыя, якія адказалі, дык прапанавалі паставіць гэтую справу пад дыскусыю, каб парушыла гэтую справу прэса й г. п. Выглядае, што так і давядзецца зусім уехаць у зямлю беднай малой магілцы, шчэзнуць, а месца займе нейкі другі нябожчык.

А мы, беларускія жанчыны, мы сваімі рукамі вышывалі тыя словы на сьцягу Слуцкіх паўстанцаў, якія так магутна клікалі на вялікі чын: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!» А калі яны памерлі, дык хіба мы забудзем аб іх, аб тых легіёнах паўшых змагароў, каб жыла Бацькаўшчына? Паставім-жа мы сяньня, у дзень сьвята памерлых, па маленькай сьвечачцы на малую запаўшую магілку, запалім гэтыя сьвечачкі — і пабачыце, яны укрыюць яе ўсю. Яны падымуць яе і загарацца ня двума літаркамі, а поўным іменем і прозьвішчам беларускага жаўнера Лявона Байдалава і яго трох сыноў на адумысловым памятніку.

Няхай ня будзе паміж намі такой, якая адмовіцца ад гэтай маленькай ахвяры, ад гэтай першай у гэтым родзе нашай арганізаванай акцыі. Няхай кажная беларуская жанчына дасьць 20 цэнтаў на сьвечку, дасьць іх у сваю жаночую арганізацыю, якая перашле іх нам у нашую жаночую арганізацыю ў Нямеччыне. Ня трэба саромецца малой ахвяры, але не трэба даць, не адкладаць на пазьней, а даць адразу, не чакаючы на дыскусыю ў прэсе і не спадзяючыся ўперад падзякі, паставіць скромна й шчыра малую сьвечку, так, як зрабіла гэта хворая й бедная полька, стаўляючы яе на магілку харвата, чужога й незнаёмага ей выгнаньніка ў Розэнгайме.

З. Ст.

**ПАДЗЯКА**

Згуртаваньне Беларускіх Жанчын у Аўстраліі гэтым шчыра дзякуе ніжэй пададзеным ахвярадаўцам за падарункі беларускім дзеткам у Нямеччыне:

Спадару І. Гавенчыку за . . . . . 2.00.0
„ Р. Трысмакову . . . . . . 0.10.0
„ А. Марозу . . . . . . . . . 0.10.0
„ Ю. Яцкевічу . . . . . . . 0.11.0
„ К. Чабатару за дробныя падарункі й 3 ярды матарыялу.
Спадарыні Э. Яцкевіч за рэчы з вопраткі.

Усім ахвярадаўцам няхай будзе ўзнагародай радасьць беларускіх дзяцей у Нямеччыне пры ялінцы.

**Згуртаваньне Беларускіх Жанчын у Аўстраліі**

# Аб жаночай працы у Кліўленд (ЗША)

Амаль кажная з жанчын у Задзіночаных Штатах Амэрыкі працуе, зарабляючы на пражыцьцё, таму ня мае за шмат свабоднага часу, аднак на грамадзкую працу кажная стараецца знайсьці гэты дарагі ў нас час.

У кажным пачынаньні мужчынаў дапамагаюць, супрацоўнічаюць і нашыя жанчыны, сяброўкі нашага Жаночага Згуртаваньня. Але асаблівую ахвярнасьць, увагу й любоў аказалі яны ў сваёй працы пры нашай царкве ад самага пачатку яе заснаваньня. Шмат працы ўлажылі нашыя жанчыны асабліва перад Вялікаднем, калі прыбіралі сваю новую царкву. Каб яе прыгажэй прыбраць, несьлі жанчыны з сваіх хатаў вышываныя й тканыя ручнікі, рабілі кветкі, якімі ўпрыгожвалі іконы, зрабілі новую Плашчаніцу. А калі прыйшлі нашыя людзі на ўсяночную, то кажны з задаваленьнем і з радасьцю ў сэрцы ўзьнёс свае малітвы да Усявышняга ў сваей прыгожай і чысьценькай царкве.



**Галіна Ганчарэнка выконвае солё на акардыёне: «Беларускае Пупуры», напісанае кампазытарам Міколам Куліковічам (Нью Ёрк).**

Шмат было народу ў царкве, шмат знаёмых твараў, узапраўды часамі здавалася, што гэта не ў Амэрыцы мы знаходзімся, а на сваёй дарагой Бацькаўшчыне.

Вялікай духовай падтрымкай ёсьць для нас нашая царква, мы за яе таму й удзячны горача Яго Прэасьвяшчэнству Япіскапу Васілю, за тое, што дапамог нам залажыць наш прыход. Удзячны мы таксама й нашаму сьвятару айцу Яўхіму Якіменку й дыякану Калістрату Савіцкаму, якія абслугоўваюць наш прыход.

У нашую царкву нясём мы свае гора, свае сьлёзы й свае радасьці. На багаслужбах сьпявае хор, злажаны з нашых дзяцей і старэйшых, якім кіруе Я. Кузьміцкі.

Асабліва кранае нас супольная малітва: Магутны Божа, якую сьпявае ўся царква, стоячы на каленах. За бацькаўшчыну нашу — Беларусь, за народ свой, які стогне сяньня ў путах няволі льецца наша малітва-песьня, якую з пачуцьцём сьпяваюць тры пакаленьні ў нашай царкве.

«Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай, Краіну нашу й наш народ», — гэтымі словамі заканчваецца што нядзелі наша багаслужба ў Кліўлендзе. Узапраўды шмат лягчэй нам зносіць усялякія выпрабаваньні, якія спаткаюць нас на нашым жыцьцёвым шляху, шмат лягчэй нам несьці праз жыцьцё свае меншыя й большыя крыжы, калі мы можам маліцца ў сваёй беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царкве.

**Жанчына з Кліўленду.**



**Дзявочы ансамбль на канцэрце, ладжаным Беларускім Жаноцкім Згуртаваньнем і Беларускім Студэнцкім Таварыствам у Нью Ёрку. Зь лева на права стаяць: Гая Дарашэвіч, Каця Мельяновіч, Ала Орса, Галіна Ганчарэнка, Натальля Кушаль, Галіна Орса і Маня Амельяновіч.**

# »Эвіта«

**АД РЭДАКЦЫІ: Вынятак з кніжкі Эвы Пэрон п. н. «Рацыя майго жыцьця» ў перакладзе з гішпанскае мовы Ганны Мерляк.**

Калі я пастанавіла быць «Эвіта», то я ведала, што гэтым выбрала шлях майго народу.

Цяпер, за чатыры гады ад гэтае пастановы мне лёгка даказаць, што ў запраўднасьці яно так і ёсьць.

Ніхто, а толькі народ называе мяне «Эвіта». Толькі гэтак навучыліся называць мяне «бескашульнікі» (дэскаміздос). Мужы ўраду, палітычныя кіраўнікі, амбасадары, прамыслоўцы, прафэсыяналы, інтэлектуалістыя й другія, якія мяне наведваюць, заўсёды называюць «Спадарыня» (сэньёра); некаторыя навет афіцыяльна «Яе Эксцэленцыя» або «Яе Дастойнасьць», а часамі «Спадарыня Прэзыдэнта».

Яны ўсе бачаць ува мне толькі Эву Пэрон.

«Бескашульнікі», аднак, замест гэтага, знаюць мяне толькі як «Эвіту».

Я так ім сябе прадставіла і паймення ў той дзень, калі я выйшла да бедных і сказала, што я хацела-б быць «Эвіта» замест «Спадарыня Прэзыдэнта», калі гэтая «Эвіта» магла зьменшыць у кагось цярпеньні або магла асушыць сьлязу.

Было-б рэчай вельмі дзіўнай, калі-б мужы ўраду, кіраўнікі палітыкі, амбасадары, якія да мяне зьвяртаюцца «Спадарыня», зьвярталіся-б да мяне «Эвіта». Мне здавалася-б гэта не на сваім месцы таксама, калі які-небудзь падростак (пібэ) ці рабочы або хто-небудзь зь бедных зьвярнуўся да мяне, клічучы «Спадарыня».

І я думаю, што для іх самых было-б яшчэ дзіўней і немагчымым зьвяртацца да мяне ў іншы спосаб.

Цяпер, калі-б у мяне спыталі, як я хацела-б, каб мяне называлі, мой адказ зараз-жа быў-бы: мне больш падабаецца імя, якім мяне называе народ.

Калі падростак зьвяртаецца да мяне «Эвіта», я чуюся маткай усіх дзяцей, усіх слабых і бедных маей краіны.

Калі працоўныя мяне называе «Эвіта», зь вялікім задаваленьнем я чуюся «таварышкай» усіх мужчын, якія працуюць у маім краі, — і яшчэ больш — усіх працоўных сьвету.

Калі жанчына маей бацькаўшчыны мне кажа «Эвіта», я ўяўляю сябе як сястрою і ўсіх жанчын сьвету.

І так амаль ня хочучы, я падала тры прыклады галоўнай дзейнасьці «Эвіты» ў сувязі зь беднымі, працоўнымі й жанчынамі.

Праўдай ёсьць, што гэта мне абсалютна нічога не каштуе й што бязь ніякай артыстычнай натугі так як-бы я нарадзілася толькі для гэтага, бо я чуюся адказнаю за бедных, як-бы я была іх усіх маткай; змагаючыся пляччо ў пляччо з працоўнымі, як-бы я была іх таварышкай па хвабрыцы або якогась варштату працы; перад жанчынамі, якія маюць давер да мяне, лічу сябе як-бы іх старэйшай сястрою і ў некаторай меры адказнай за лёс тых усіх, якія злажылі ўва мне свае надзеі.

І сьцьвярджаю, што гэтым бяру на сябе адказнасьць і ў ніякім выпадку не ганаруся гэтым.

Думаю, што кажны мужчына ці жанчына, якія лічаць сябе сябрамі чалавецтва, павінны хоць трохі лічыць сябе адказнымі за блізьніх, магчыма тады мы былі-б усе трохі больш шчасьлівымі.

Працоўным я памагаю залагоджваць і развязваць усе пытаньні, якія адносяцца да прафэсыянальнага саюзу.

Ад бедных атрымоўваю іхныя заявы на матарыяльную дапамогу, заспакойваючы іх, паколькі яны не адносяцца да справаў дзяржавы, і такім чынам зьяўляюся афіцыяльным супрацоўнікам ураду.

Жанчынам памагаю разьвязваць праблемы як сацыяльныя, культурныя, гэтак і палітычныя.

Калі-б у мяне хто папытаў, якая з гэтых дзейнасьцяў мне найбольш падабаецца, дык ня ведала-б дакладна й станоўча сказаць, каторая зь іх.

Калі-б мяне папыталі ў часе палагоджваньня справаў прафсаюзных, дык сказала-б, што гэта дзейнасьць мне падабаецца больш за ўсе. Калі-б папыталі, як я палагоджваю заявы маіх «бескашульнікаў» або справы жанчын, то зараз-жа сказала-б, што якраз гэтая дзейнасьць мне найбольш падабаецца. Гэта сказала-б ня із «дыплямацыі» ці «палітыкі», не! А сказала-б гэта толькі таму, што калі я нешта раблю, дык мне здаецца, што раблю гэта найлепей, што гэта адказвае майму густу і ёсьць згодным з маім пакліканьнем і здольнасьцямі.

Прызнаюся з глыбіні мае душы, што мне падабаецца больш за ўсё быць з народам, быць зьмешанай поўнасьцю з працоўнымі, беднымі, жанчынамі...

Зь імі мне не патрэбна прыймаць ніякай позы, якія я часамі змушана рабіць, калі лічу сябе «Эвай Пэрон». Гутару і чую як яны, скромна і шчыра, часамі цьвёрда да іх, але заўсёды ляяльна.

Але ўзамен ніколі не разумее «Эва Пэрон» і яна рэдка калі пагаджаецца зь людзьмі, зь якімі бярэ ўдзел у афіцыяльных пасяджаньнях або прыняцьцях.

Ня трэба думаць, што калі я гэта кажу, дык дзейнасьць «Эвіты» мне ёсьць лягчэйшай, але гэта наадварот — мне выглядае заўсёды цяжэй і ніколі я ня была зь яе поўнасьцю задаволена. Наадварот, роля «Эвы Пэрон» мне даецца вельмі лёгка, і гэта-ж ня дзіва! Ці-ж не лягчэй іграць ролю ў тэатры, прадстаўляючы, замест у запраўднасьці пераджываць яе?

У маім выпадку ёсьць пэўным, што як «Эва Пэрон» прадстаўляю старую ролю другіх жанчын усіх часоў, якія ўжо аджылі, але як «Эвіта» пераджываю ў запраўднасьці тое, што магчыма ніводная жанчына ў гісторыі чалавецтва не пераджыла.

*

Сказала, што я ня кіруюся ніякай асабістай амбіцыяй. Магчыма ў запраўднасьці ёсьць гэта няпраўдай.

Так! Прызнаюся, што маю адну і вельмі вялікую амбіцыю: хацела-б, каб імя «Эвіта» фігуравала калі-небудзь у гісторыі маей бацькаўшчыны.

Хацела-б, каб аб ёй было сказана хаця-бы ў паўголас, у канцы надзвычайнага разьдзелу, які напэўна гісторыя прысьвечыць Пэрону, штосьці гэтаму падобнае:

«Была пры боку Пэрона адна жанчына, якая ўзяла на сябе абавязак заносіць Прэзыдэнту надзеі народу, якія Пэрон абарочваў у рэальнасьць».

І была-б я належна й яшчэ цераз меру ўзнагароджанай, калі-б гэты дапіс канчаўся ў наступны спосаб:

«Аб гэтай жанчыне ведаем толькі тое, што яе народ міла называў „ЭВІТА"».

**Эва Пэрон**

# Міжнародная канфэрэнцыя тэлекамунікацыі

**Ужо** дабягае канца міжнародная канфэрэнцыя тэлекамунікацыі, якая адбываецца ў Буэнос Айрэс ад 6 кастрычніка сёлета. У гэтай канфэрэнцыі бяруць удзел упаўнамочаныя прадстаўнікі ад 63 краінаў сьвету, у тым ліку й ад Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі.

Канфэрэнцыю адкрыў **Я. Э.** Прэзыдэнт Аргентынскай Рэспублікі генэрал **Ж. Д.** Пэрон і ён-жа быў выбраны на ганаровага старшыню канфэрэнцыі, але ў заступстве старшыні, міністра замежных справаў Аргентыны канфэрэнцыяй кіруе сп. Андрада.

Хаця гэтая канфэрэнцыя зьяўляецца тэхнічнага характару, аднак не абыйшлося й бяз палітычных праблемаў, якія былі пастаўленыя на парадку дня блёкам савецкіх дэлегатаў. Амаль цэлы першы тыдзень прайшоў на дыскусыі савеца-расейскіх прапановаў. Дэлегат ад Савецкага Саюзу Цынгаватаў дамагаўся выключэньня дэлегацыі нацыянальнага Кітая, а прызнаньня дэлегацыі Кітаю камуністычнага, ужываючы пры гэтым ведамага лексыкону Вышынскага, за што быў прыклікаиы да парадку. Натуральна, яго падтрымаў зараз-жа Аркадьев — дэлегат Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ды іншыя з за зялезнай заслоны, але ў выніку галасаваньня гэтая прапанова была адкінутая 42 галасамі супраць 9 пры 12 устрымаўшыхся.

Але справа на гэтым ня кончалася, бо гэты-ж самы Цынгаватаў запрапанаваў прызнаць дэлегатаў ад Мангольскай Рэспублікі, ад Летувы, Латвіі й Эстоніі. Гэтую прапанову спаткаў падобны лёс. Тут трэба дадаць, што ўся савецкая дэлегацыя складалася больш чымся з 25 асобаў і некаторыя зь іх чакалі на калідоры на прызнаньне, каб засесьці на канфэрэнцыі й падымаць рукі за Цынгатавым, як гэта робяць беларускі ў украінскі дэлегаты.

Канфэрэнцыя пайшла-б сваім шляхам, каб не паступіла яшчэ адна прапанова, гэта прызнаньня расейскай мовы за мову канфэрэнцыі, у выніку чаго дэлегаты арабскіх краінаў і Партугаліі зрабілі тое самае. Але пасьля галасаваньня аказалася, што расейская і другія мовы ня былі прынятыя, дык расейска-савецкі дэлегат заявіў, што яны будуць аплачваць толькі пераклады з францускае мовы.

Беларускія ўстановы ў Аргентыне, ацэньваючы важнасьць гэтай канфэрэнцыі, ды бяручы пад увагу, што на ёй рэпрэзэнтуе Беларусь і яе народ не запраўдны дэлегат, да гэтага навет не беларус, які сьлепа выконвае загад Масквы, выслалі на імя старшыні канфэрэнцыі пратэст наступнага зьместу:

**Яго Міласьці**

**Старшыні Інтэрнацыянальнай Канфэрэнцыі Тэлекамунікацыі**

**ў Буэнос Айрэс.**

**Высока Паважаны Спадару:**

**Ніжэй падпісаныя прадстаўнік Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі ў Аргентыне і прадстаўнік ад беларусаў, задзіночаных у Згуртаваньні Беларусаў у Аргентыне лічаць сваім абавязкам давесьці да ведама ўсіх Упаўнамочаных Дэлегатаў Інтэрнацыянальнай Канфэрэнцыі Тэлекамунікацыі наступнае:**

**Мы пратэстуем супраць удзелу сп. Аркадьева як упаўнамочанага дэлегата ад Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі таму, што ані актуальны ўрад у Беларусі, ані дэлегат Аркадьев ня рэпрэзэнтуюць беларускага народу, бо яны ўсе ёсьць звычайнымі выканальнікамі загадаў акупацыйнай улады на Беларусі, кіраванай расейцамі з Масквы.**

**Пратэстуем таму, што расейскія камуністыя займаюць тэрыторыю Беларускай Народнай Рэспублікі ад 1920 году, якая была абвешчана незалежнай 25 сакавіка 1918 году і якой запраўдным прадстаўніком зьяўляецца Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі на чужыне.**

**Пратэстуем таму, што ў сучаснай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы сяма ні міністэрства ні іншай адпаведнай установы дзеля кіраваньня справамі тэлекамунікацыі, а толькі ёсьць адно міністэрства ўва ўсім Савецкім Саюзе зь сялібай у Маскве, кіраванае толькі й выключна расейцамі, так як і сам дэлегат Аркадьев ня ёсьць беларусам, а запраўдным расейцам. Да гэтага ніводзін беларус, савецкі грамадзянін, ня мае магчымасьці палучыцца пры помачы абслугі інтэрнацыянальнай тэлекамунікацыі із сваімі роднымі, якія пражываюць заграніцай, таму што паліцыя МВД арыштоўвае й вывозіць на Сібір пад закідам шпіянажу, бо ўжо сем'і шмат якіх беларусаў, пражываючых у Аргентыне, мучаюцца ў Сібіры.**

**На падставе вышэй пададзенага, просім Высокапаважаную Інтэрнацыянальную Канфэрэнцыю Тэлекамунікацыі выключыць дэлегацыю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, таму што яна не рэпрэзэнтуе народу, а запрасіць прадстаўнікоў Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі на чужыне, каб яны змаглі выразіць апінію і даць голас запраўдны беларускага народу.**

**Спадзяючыся, што Высокапаважаны Спадар Старшыня давядзе да ведама ўсіх дэлегатаў наш пратэст для разгляду, астаёмся з глыбокаю пашанаю,**

**К. Мерляк**

**Прадстаўнік Ураду БНР на чужыне**

**У. Другавец**

**Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне**

# Некаторыя пытаньні рэвал. дэмакрацыі

(Заканчэньне)

графе якой чорным на белым напісана наступнае:

Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў (а не «Расея»!) ёсьць **саюзная** дзяржава, створаная на аснове **добраахвотнага** аб'яднаньня **раўнапраўных** Савецкіх Сацыялістычных **Рэспублік:**

1. Расейскай **фэдэрацыі** (створаная 7 лістапада 1917 г.),
2. Украіны (прылучана 26 сьнежаня 1922 г.),
3. Беларусі (таксама),
4. Узбэкістану (27 сьнежаня 1924 г.),
5. Казахстану (5 сьнежаня 1936 г.),
6. Грузіі (таксама),
7. Азэрбайджану (таксама),
8. Летувы (прылучаная 3 жнівеня 1940 г.),
9. Малдавіі (прылучаная 2 жнівеня 1940 г.),
10. Кіргізыі (прылучаная 5 жнівеня 1936 г.),
11. Таджыкістану (таксама),
12. Армэніі (таксама),
13. Туркмэніі (прылучаная 27 кастрычніка 1924 г.),
14. Эстоніі (прылучаная 6 жнівеня 1940 г.),
15. Карэла - Фінляндыі (прылучаная 31 сакавіка 1940 г.),
16. Латвіі (прылучаная 5 жнівеня 1940 г.).

Як бачыце, для назвы «Расея» месца не астаецца, значыць, правільна гаварыць толькі пра Савецкі Саюз, пра саюз рэспублік, пра народы СССР, пра нацыі СССР, а не пра «Расею». Добра гэта ці ня добра — якое-ж гэта мае значэньне?

(Далей будзе)

# Уладыка Сяргей у Брысбэйне

Дня 24 кастрычніка сёлета Брысбэйнскія беларусы віталі Галаву Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы Яго Праасьвяшчэнства Архіяпіскапа Сяргея, які быў прыбыў у вадведзіны да беларускіх эмігрантаў у ўсходня-аўстралійскім горадзе Брысбэйн.

У нядзелю 26 кастрычніка ў памяшчэньні Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў сабраліся мясцовыя беларусы дзеля прывітаньня Ўладыкі, а таксама й госьці ад Славацкага Вызвольнага



Камітэту й мясцовых украінцаў. Перад паўднём прыбыў Уладыка, на спатканьне якога перад памешканьнем выйшлі дзеткі з букетамі кветак. Сп. Янка Гавенчык прывітаў Уладыку, дзякуючы ў кароткіх словах за ягоную дзейнасьць на карысьць БАПЦ, а таксама пажадаў, каб Усемагутны даў Уладыцы здароўе для далейшай працы ў службе Богу й Беларусі. Уладыка ў сваім адказе заклікаў прысутных да любовіБога й блізьняга ды выконваньня сьв. Запаведзяў.

У сувязі з набліжэньнем гадавіны Слуцкага паўстаньня Ўладыка адправіў паніхіду за душы харобрых Случчакоў і ўсіх загінуўшых за Беларусь. Усе прысутныя з запаленымі сьвечкамі ў руках горача маліліся за супакой душаў народных Герояў, аддаўшых жыцьцё на аўтар Бацькаўшчыны. Пасьля Паніхіды быў адпраўлены ўрачысты малебен за беларускі народ, падчас якога прысутныя прасілі Бога паслаць сілы вытрываньня, спору й посьпехаў беларускаму народу, прэзыдэнту БНР Міколе Абрамчыку і ўсей беларускай эміграцыі. Па адсьпяваньні многае лета ўсім змагаром за волю Беларусі, усе прысутныя, паўшы на каленьні, з натхненьнем прасьпявалі Магутны Божа.

Пасьля Божай Службы ў чэсьць Уладыкі быў наладжаны супольны абед. Пасьля малітвы ля абедзеннага стала, Уладыка яшчэ раз паўтарыў аб любові Бога й блізьняга й з прыемнасьцю адцеміў наяўнасьць на ўрачыстасьці прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, кажучы: «Прыемна бачыць за адным сталом у беларусаў прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, якія патрапяць захаваць узорную згоду ў жыцьці і працы, бо там, дзе любоў і згода, там і Бог». У паабедзенным часе разгарнуліся гутаркі на рэлігійныя ды нацыянальныя тэмы. Уладыка прабыў у Брысбэйне да 30 кастрычніка, праводзячы нарады з прадстаўнікамі ўраду ЗБВ.

На заканчэньне астаецца шчыра падзякаваць Уладыцы за архіпастырскую турботу аб беларусах у Брысбэйне й пажадаць, каб іх наведваў як найчасьцей.

**Юры Я.**

### ЗА ДУШЫ ПАМЁРШЫХ БЕЛАРУСАЎ

Кастрычнік і лістапад — гэта месяцы «дзядоў», калі беларускі народ старым звычаем успамінае памяць сваіх дзядоў і прадзедаў, што адыйшлі на вечны супачынак, гэта таксама месяцы беларускіх героя́ў, паўшых за волю й незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Дня 12 кастрычніка сёлета адбылася ў Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве ў Лівэрпуль (Аўстралія) паніхіда за душы змагароў, паўшых за волю Бацькаўшчыны. Паніхіду адправіў Яго Праасьвяшчэнства Архіяпіскап Сяргей у саслужэньні мясцовага духавенства, які ў гарачых словах прамовіў да вернікаў, даючы ім сваё архіпастырскае багаслаўленьне. Падчас Божае Службы прысутныя плакалі па тых, што за нас аддалі сваё жыцьцё.

**А. В.**

# Беларусы ў Паўночнай Францыі

Месяц таму назад, як на агульным зьезьдзе беларусаў у горадзе Рубэ (паўночная Францыя) заснаваўся акруговы аддзел Задзіночаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі. Управа Аддзелу вядзе цяпер актыўную працу над зарганізаваньнем мясцовых пададдзелаў, што бязумоўна зактывізуе й палепшыць арганізацыйнае жыцьцё ў цэлай акрузе.

Беларускія работнікі працуюць у розных прамысловых асяродках гэтай акругі, што пазваляе ім больш менш быць згуртаванымі ў свае нацыянальныя групы ў кажным з такіх прамысловых цэнтраў. Стараньнем акруговай управы ўжо заложаная мясцовая сэкцыя Хрысціянскага Сындыкату Работнікаў пры лякальным французкім CFTC. Гэта дасьць для нашых работнікаў поўную сацыяльную апеку, зь якой карыстаюць усе французкія сындыкалісты.

Управа знаходзіцца ў сталым кантакце зь беларускімі студэнтамі ў Бэльгіі, якія з свайго боку аказваюць даволі вялікую помач у нашым арганізацыйным жыцьці, прысылаючы сваіх спэцыялістых у арганізацыйных справах. На асаблівую ўвагу заслугоўвае Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў у Бэльгіі, якое на апошнім сваім агульным зьезьдзе вянесла пастанову дапамагчы зарганізавацца беларусам паўночнай Францыі. Старшыня гэтага Згуртаваньня сп. Т. Ц. асабіста ўзяў на сябе гэтае заданьне. Ён ахвяраваў для гэтае мэты пару апошніх тыдняў сваіх канікулаў, наведваючы асабіста работнікаў у іхных прыватных памешканьнях і арганізуючы зборкі. На працягу месяца пасьля залажэньня арганізацыі, ён прачытаў у розных мясцовасьцях акругі тры даклады на беларускія гістарычныя тэмы й тэмы нашае сучаснасьці.

**Я. Л.**

### ПАДЗЯКА

Гэтым пацьвярджаю атрыманьне дзьвюх пачак ад Задзіночаньня Белаларусаў у Новай Паўдзённай Валіі ў Аўстраліі, за якія гэткай дарогай выказваю маю шчырую падзяку.

**Аляксей Кабычкін.**

# Паведамленьне

### ГАЛОЎНАЕ УПРАВЫ САЮЗУ БЕЛАРУСКІХ ЖУРНАЛІСТЫХ

У сувязі з прыпадаючымі сёлета 90-тымі ўгодкамі **першае беларускае газэты** і 380-мі ўгодкамі **пачатку беларускае прэсы** ў наступаючым годзе Галоўная Управа Саюзу Беларускіх Журналістых запрашае сяброў і ўсіх іншых беларускіх журналістых (якія не ўваходзяць сябрамі ў СБЖ) адзначыць прыпадаючыя ўгодкі паўсямесна ладжаньнем адпаведных сьвяткаваньняў і па магчымасьці выставак беларускае прэсы і друку наогул.

Апрача таго рыхтуецца і будзе выдадзены **Даведнік беларускага журналістага,** для якога неабходна апрацаваць наступныя тэмы:

1. Гісторыя беларускае прэсы. (Можа быць апрацаваная і рознымі аўтарамі па асобных разьдзелах).
2. Беларуская прэса і яе праблемы
   а) Сьвет публіцыстага,
   б) Газэта і гісторыя,
   в) Газэта — пульс жыцьця нацыянальнага і сусьветнага,
   г) Дзяржава і прэса,
   д) Прэса і культруа,
   е) Газэта й чытач,
   ж) Часапісьменства,
   з) Праблема маладняка беларускае прэсы,
   і) Весткі і камэнтары,
   к) Весткі і чытач,
   л) Статыстыка і прэса,
   м) Як арганізуецца газэта,
   н) Старыя газэты — новыя ідэі,
   о) Прэса на акупаванай Бацькаўшчыне,
   п) Беларуская прэса на эміграцыі,
   р) З лясоў і палёў: папяровая прамысловасьць (агулам і беларуская асабліва),
   с) Свабода прэсы і прэсавыя правы,
   т) Прэса і народ.
3. Беларускі журналісты (ад пробы пяра да СБЖ).
   Апрача таго будзе паданы.
4. Каталёг беларускае пресы:
   а) Альфабэтычны сьпіс беларускае прэсы,
   б) Хронолёгічны сьпіс беларускае прэсы,
   в) Сыстэматычны сьпіс беларускае прэсы,
   г) Агляд у ліках і па краінах (на бацькаўшчыне і на эміграцыі з шматлікімі табліцамі і дыяграмамі),
   д) Сьпіс прэсы на Беларусі на іншых мовах (расейскай, польскай і інш.).
5. Арганізацыя беларускае прэсавае службы на эміграцыі.

Ўсе тэмы падаюцца на выбар кажнаму сябру СБЖ і не сябром журналістым і просіцца да 1 сьнежня 1952 г. паведаміць Галоўную Управу СБЖ аб выбары й замацаваньні пэўнае тэмы. Загалоўкі працаў могуць быць зьмененыя, але пажадана, каб па аднаму пытаньню ня пісалася некалькімі сябрамі, але былі ахопленыя і распрацаваныя ўсе праблемы нашае прэсы.

Пажадана таксама, каб сучасныя і былыя рэдактары нашых часапісаў падалі гістарычна-успамінны агляд свае працы (пры магчымасьці з датамі падзеяў важных для гісторыі данага органу і гісторыі беларускае прэсы, іменамі супрацоўнікаў і г. д.). Пры кажным надасланым падобным матар'яле просіцца заўсёды зазначаць: для друку ці да архіву гісторыі беларускага друку і прэсы, каб унікнуць непатрэбных непаразуменьняў. Аўтарскія правы засьцярожаныя і захованыя для кажнае паасобнае працы, таксама як і ў разе запатрабаваньня і захаваньне той ці іншай працы да часу ў таямніцы.

2. Галоўным прэсавым органам СБЖ прыймаецца газэта «Бацькаўшчына» і таму кладзецца ў абавязак кажнага сябры СБЖ найменш квартальна зьмяшчаць у ёй агляд беларускага жыцьця данае мясцовасьці ці краіны, дзе сябра пражывае. Іншыя артыкулы — пажадана.

3. Просіцца ўсіх сяброў спарадкаваць да 15 сьнежня 1952 г. свае сяброўскія складкі і інш. забавязаньні перад сваёй арганізацыяй. Тых, хто не спарадкуе свае забавязаньні ГУ змушаная будзе выдаліць з СБЖ. Парадкуецца ўсё ў сваіх сэкцыях, якія да 25. XII. 1952 г. перасылаюць свае справаздачы да Галоўнае Управы. (Выпшына складкі 3 даляры на год, або эквівалент у іншай валюце згодна з адпаведнай інструкцыяй прынятай на апошнім сходзе).

4. Ўсе аддзелы СБЖ прысылаюць свае справаздачы Галоўнай Управе СБЖ да 25. XII. 1952 г. У справаздачах павінны быць паданыя поўныя сьпісы сяброў аддзелу на 1. XII. 1952 г. Да таго-ж тэрміну мусяць быць і выкананыя усімі бяз вынятку сябрамі Дэклярацыі аб уступленьні ў СБЖ. (Дэклярацыі-фармуляры высылаюцца кажнаму з ГУ на патрабаваньне).

5. Праводзіцца падрыхтоўка арганізацыі, БЕЛАРУСКАГА ВЕСТКА БЮРО (назоў можа быць і іншы, бо яшчэ аканчальна ня прыняты). Усе беларускія рэдакцыі і сяброў СБЖ просіцца надаслаць па магчымасьці свае прапановы і пажаданьні што да арганізацыі. Таксама просіцца зголасіцца сталымі дапішчыкамі (карэспандэнтамі) сяброў і не сяброў СБЖ у будучыя выданьні ведамак беларускага вестковага бюро з усіх краінаў. Зголасіўшымся будзе разасланая адпаведная інструкцыя і іншыя весткі. Прадбачыцца, што вестковае бюро будзе ў цеснай супрацы з нашымі навуковымі і грамадзкімі інстытуцыямі, арганізацыямі і ўстановамі.

Зглашэньні на абанамэнт вестак прыймаюцца ГУ СБЖ.

Усякія прапановы, пажаданьні і па розныя даведкі зьвяртацца або непасрэдна да Галоўнае Ўправы СВЖ, або да кіраўнікоў аддзелаў СБЖ ува ўсіх краінах. Часовы адрыс ГУ СБЖ:

6 Vandervoort Place

BROOKLYN 37, N. Y. USA

**М. Панькоў**

**Старшыня ГУ СБЖ**

**Ч. Ханяўка**

**Сакратар**

**Замест фэльетону**

# *Пісьмо ў Рэдакцыю*

**Высока Паважаны Спадар Рэдактар!**

У сувязі з тым, што справа вельмі паважная й магла-б паўстаць трагэдыя бадай чуць ня ў сусьветным маштабе, прашу ў найбліжэйшым нумары Вашай Газэты зьмясьціць ніжэй паданае, хаця-б навет у рубрыцы «Замест фэльетону».

Свайго часу ў «Бацькаўшыне» былі зьмяшчаныя мае фэльетоны, падпісаныя «пс». Ня вельмі помню іхняга зьместу, ані нумароў і датаў, калі гэта было. Не належу да тых пісакаў, якія заўсёды пры сабе возяць поўную валізу сваіх (адпусьці, Божа, цяжкі грэх!) твораў ды кажнага здыбанага суродзіча ловяць за палу і ўсыпляюць гэнай нудой.

Дык вось-жа я ўзапраўды забыўся аб гэных фэльетонах і ня ўспомніў-бы іх, каб учора не атрымаў весткі, што з прычыны маіх жартаў над Канадай зноў запітушыліся Хмары. Справа ў тым, што некаторыя з прыпадку «лідэры» абурыліся на гэныя жарты й пагражаюць зрывам, разрывам, развалам, правалам «вялікай нашай палітыкі» ў Канадзе. А загваздка ў тым, што яны няведама скуль дайшлі да пераканаьня, што гэныя фэльетоны ды і ўсё падпісанае «пс» піша сп. Навіцкі з Канады. Таму пагражаюць яму страшнай помстай.

Ня ведаю — «зачем на зеркало пенять, коль рожа крива»? Чаму ня прызнацца шчыра, што гэны нумар «Эміграта» ня ўдаўся? Ну ня ўдаўся, быў спартачаны з кажнага гледзішча. Але-ж аўтары могуць зрэгабілітавацца й зрабіць лепшыя, у што, прызнаюся, ня вельмі веру. Ніколі на ніякія зачэпкі не адказваю. Жыцьцё за кароткае і за цікавае, каб марнаваць час на палеміке з рознымі попкамі, шчэрбамі, хмарамі, пітушкамі ды іхнымі пашквілямі. Іх можна часам «прыхлопнуць эпіграмай». І толькі...

Ня пісаў-бы цяпер, каб ня сябра, які просіць дяне «спраставаць плётку, бо можа пацярпець нявінны чалавек»...

Дык калі ўжо запітушылася тахая бура ў шклянцы вады із маей прычыны, мушу ахвярна, як калісь М. Сцэволя уткнуць руку па локаць (ня думайце, што ў вагонь, на столькі я яшчэ ня зьехаў з глузду!) — у гэна балота.

Pro publico bono...

Вось-жа прызнаюся urbi et orbi, што гэныя фэльетоны напісаў я і толькі да мяне павінен мець прэтэнсыі, каму яны не спадабаліся.

Quod scripsi — scripsit!

Ego sum!

**Кастрычнік, 1952.**

**П. Сыч.**

### АД РЭДАКЦЫІ

**З прычыны спазьненьня гэты нумар «Бацькаўшчыны» выпускаем падвойным. Наступны нумар газэты выйдзе таксама падвойным за 30 лістапада 1952 г .і ў васнаўным будзе прысьвячаны гадавіне Слуцкага паўстаньня.**

### АБВЕСТКА

**Гэтым падаецца да ведама, што новы адрыс канцыляры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Дэтройце наступны:**

**1851 Sherwood Ave, Detroit 11, Michigan, USA.**